

# Родныя пагОркі

**Капыльскі літаратурны альманах**
**№ 1**



# *Родныя*
# *пагОркі*

**Капыльскі літаратурны альманах**
**№ 1**

**Ліда**
**2021**

**Родныя пагоркі**. Капыльскі літаратурны альманах №1. На беларускай мове. Ліда. 2021. 120 с.

Выданне літаратурнага аб’яднання “Вясёлка” пры Капыльскай раённай бібліятэцы імя А. Астрэйкі.

Укладанне і прадмова: Ірына Пятровіч.
Рэдактар: Станіслаў Суднік.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку капыльскіх літаратараў розных часоў.

Выданне ажыццёўлена пры падтрымцы газеты “Наша слова”.

# З Капыльскіх пагоркаў

Капыльшчына - адна з прыгажэйшых мясцін Беларусі. Цудоўны край, дзе бруіцца рака Каменка, дзе шумяць бярозы… Край багатай гісторыі, славутых людзей, цудоўны куток нашай Беларусі. А любоў да роднага краю, веданне яго гісторыі - аснова духоўнай культуры грамадства. Як адзначыў акадэмік Д.С.Ліхачоў "Культура як расліна: у яе не толькі галіны, але і карані. Надзвычай важна, каб рост пачынаўся менавіта з каранёў".

Капыльскі край - найпрыгажэйшы, не палічыце гэта проста гучнымі словамі. За імі - разуменне таго, што такіх маляўнічых, такіх багатых на гістарычныя падзеі мясцін на нашай зямлі няшмат.

У Капылі была адна з самых моцных на Беларусі ячэек арганізацыі РСДРП, тут жа - выпадак унікальны - выдаваліся рукапісныя часопісы.

Агульнавядомы факт - калі быў утвораны часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі, яго ўзначаліў ураджэнец Капыля Зміцер Жылуновіч, ён жа - вядомы беларускі пісьменнік Цішка Гартны. Аднак аб тым, што два народныя камісары (Дз.С.Чарнушэвіч і І.І. Рэйнгольд) ва ўрадзе таксама былі з Капыля, ведаюць далёка не ўсе.

Капыльшчына дала Айчыне вядомых вучоных і дактароў медыцынскіх навук Н.В. Станкевіча, А.А. Торыка, М.А. Лушчыцкага, які быў галоўным хірургам ваенна-марскога флоту былога СССР. Заявілі аб сабе і вучоныя В.В. Раманенка, і В.І. Валынец.

Сярод знакамітых капылян - Герой Беларусі, вядомы канст-

руктар аўтамабіляў, акадэмік Міхаіл Сцяпанавіч Высоцкі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя, доктар медыцынскіх навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Мікалай Манак, доктар філалагічных навук, прафесар Аркадзь Наркевіч, майстар спорту Беларусі міжнароднага класа, чэмпіён свету па летнім біятлоне, чэмпіён Еўропы Аляксандр Сыман, член Нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь па біятлоне Антон Смольскі.

І, безумоўна, адна з самых яркіх старонак гісторыі Капыльшчыны - Вялікая Айчынная вайна. Не пакарыўся ворагу гэты найпрыгажэйшы куточак нашай Айчыны. За зброю ўзяліся, без перабольшвання, і старыя, і малыя. Ваявалі мужна, бясстрашна і на роднай зямлі, і далёка за яе межамі. 11 ураджэнцаў Капыльшчыны маюць званне Героя Савецкага Саюза, 12 - Героя Сацыялістычнай Працы, 41 чалавек узнагароджаны ордэнам Леніна. У раёне дзейнічалі і выйшлі з яго 12 партызанскіх брыгад.

Капыль быў вядомы і ў Еўропе. Выдатны картограф Себасцян Мюнстэр адзначыў яго на карце 1540 года. На карце Гедройця, якая была змешчана ў геаграфічным атласе Абрагама Артэліюса (1574 г.) Капыль таксама паказаны.

А які яшчэ раён можа пахваліцца тым, што ў ЗША ёсць цэлы горад, які поўнасцю насяляюць выхадцы з Капыльскага раёна.

У пачатку XVII стагоддзя на Капыльшчыне некалькі гадоў жыў асветнік-гуманіст эпохі Адраджэння Данііл Набароўскі - вучань самога Галілея.

Падчас Паўночнай вайны са шведамі жыхары Капыльшчыны страцілі трэцюю сваю частку. Сам рускі цар Пётр І удзельнічаў у баях са шведамі ў ваколіцах Капыля.

Родная Капыльшчына шчодра даравала нам літаратурныя таленты. Пісьменнікі і паэты, літаратурныя крытыкі і навукоўцы, мастакі і спявакі. Калі называць імёны іх больш за поўсотні. І кожны чалавек з цікавым лёсам. Іхнія жыццёвыя шляхі - гісторыя Капыльшчыны, гісторыя нашай краіны.

Адна са звестак, што зусім нядаўна выйшла з глыбінь гісторыі: Капыльшчына - радзіма Міколы Гусоўскага, аўтара помніка беларускай пісьменнасці "Песня пра зубра", які ўвайшоў у скарбніцу Еўрапейскай культуры, імя якога рашэннем міжнароднай арганізацыі

ЮНЭСКА было ўключана ў спіс найвыдатнейшых дзеячоў славянскага свету.

Капыль - радзіма вядомага ўсяму свету сваім "Чорным квадратам" Казіміра Малевіча. Дарэчы, толькі дзякуючы актыўнай дапамозе ў даследванні гэтага факта мясцовых краязнаўцаў, вывучэнню захаваўшыхся архіўных матэрыялаў краязнаўчага музея, архіваў мясцовай газеты "Слава працы", актыўнаму супрацоўніцтву з вядомымі людзьмі - выхадцамі з Капыльшчыны, гэты факт пацвердзіўся. Трэба азначыць і тое, што Казімір Севярынавіч Малевіч не толькі мастак-авангардыст, але яшчэ філосаф і пісьменнік. Яго творы (проза, вершы, трактаты), такія ж незвычайныя, як і карціны.

У Капылі нарадзіўся раданачальнік і класік новай яўрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорым. Зоф'я Тшчашчкоўская, якая пісала і па-польску, і па-беларуску, родам з Дарагавіцы. Тут чэрпаў сюжэты і натхненне для стварэння сваіх раманаў і аповесцяў Кузьма Чорны, тут пачынаў пісаць Цішка Гартны. У гісторыю беларускай літаратуры ўвайшлі творы Алеся Адамовіча, Сцяпана Аляксандровіча, Анатоля Астрэйка, Алеся Гурло, Адама Русака і іншых пісьменнікаў, якія голасам сэрца выказалі любоў да роднага мястэчка.

Куток дзівосны гнёздаў салаўіных -
Капыльская радзімая зямля.
Нідзе няма другой такой мясціны,
Дзе б адпачыў душой і сэрцам я.

Напэўна нездарма песня на словы нашага самадзейнага паэта, удзельніка літаратурнага аб'яднання "Вясёлка", настаўніка матэматыкі Мікалая Майсюка стала візітнай карткай нашай роднай Капыльшчыны.

Хто не ведае сёння вядомых беларускіх песень "Бывайце здаровы", "Бульба", "Лясная песня", "Толькі з табою", "Людзі кажуць"... Аўтар іх тэкстаў - вядомы беларускі паэт, заслужаны дзеяч культуры БССР Адам Герасімавіч Русак, які нарадзіўся ў в. Малінаўка Капыльскага раёна. Ён умеў знайсці простыя, сардэчныя словы, укласці ў верш столькі пачуцця, што музыка як быццам прысутнічае ў ім і толькі чакае сустрэчы з кампазітарам. Да паэзіі

Русака звярталіся і звяртаюцца многія беларускія кампазітары - М. Аладаў, Я. Цікоцкі, Г. Вагнер, У. Алоўнікаў, І. Любан, П. Падкавыраў, Ю. Семяняка, І. Лучанок і іншыя.

Капыльшчына - край легендаў, былін і народных паданняў. Тут здаўна абудзілася і рвалася на шырокі прастор самабытная народная мудрасць, у гонары і пашане была этнаграфія, мастацкае ткацтва, дасціпнае і каларытнае народнае слова. На Капыльшчыне заззяў талент выдатнага мастака беларускай прозы Кузьмы Чорнага (Мікалая Карлавіча Раманоўскага), які наблізіў мастацкую прозу да чалавечых перажыванняў і пакут, раскрыў характар беларуса - працаўніка, філосафа, шукальніка. Нарадзіўся пісьменнік паблізу маёнтка Боркі ў фальварку Лапацічы (зараз в. Жабчава Капыльскага раёна) 24 чэрвеня 1900 года. Кароткім было жыццё выдатнага беларускага пісьменніка - 44 гады і 5 месяцаў. Яшчэ карацейшы быў яго творчы шлях - 21 год і 6 месяцаў. За сваё творчае жыццё К.Чорны напісаў 10 кніг апавяданняў, 14 раманаў і аповесцей, некалькі п'ес, многа нарысаў, фельетонаў, публіцыстычных і літаратурна-крытычных артыкулаў. Сярод іх раманы "Зямля", "Вялікі дзень", "Пошукі будучыні", "Млечны шлях", "Трыццаць год" (няскончаны, 1934). "Трэцяе пакаленне" (1935), аповесці "Скіп'ёўскі лес", "Лявон Бушмар", "Люба Лук'янская" (1936), кніга апавяданняў "Вялікае сэрца" і іншыя.

Адзін з добра вядомых і арыгінальных беларускіх паэтаў Анатоль Астрэйка. Нарадзіўся паэт 24 ліпеня 1911 года ў в. Пясочнае ў сям'і простых сялян. Да літаратуры цягнуўся з маленства. Яшчэ, калі пасвіў падлеткам кароў на прынёманскіх лугах, яго сэрца запаўнялася замілаваннем ад хараства наваколля, у галаве нараджаліся паэтычныя радкі аб роднай старонцы. Астрэйку пашанцавала любавацца хараством Нёмана ды яшчэ і жыць сярод цудоўных заліўных лугоў. Сваю любоў да іх ён перадаў у нізках спеўных вёршаў. Песня "Бацька мой Нёман" стала вядомай усяму свету. У А. Астрэйкі адзін за другім выходзілі зборнікі вершаў "Добры дзень", "Зямля мая", "Бацька мой Нёман", "Сэрца насцеж", "Цвіціце, верасы", "Памяць дарог". Давялося яму шмат папрацаваць у рэспубліканскіх газетах, але, як ён лічыў, больш за ўсё пашанцавала тварыць у часопісе "Вожык". Тут ён выпусціў сваю сатырычную паэму "Прыгоды дзеда Міхеда", якая стала візітнай карткай для выдання. Імя паэта ўвекавечана. Па просьбе жыхароў горада Савет

Міністраў БССР пастановай ад 7 мая 1980 года прысвоіў Капыльскай раённай цэнтральнай бібліятэцы імя Анатоля Астрэйкі, адна з вуліц горада таксама носіць імя паэта.

Яшчэ адзін вядомы капылянін, беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны работнік культуры Сцяпан Хусейнавіч Александровіч. "Радзіма мая - старадаўні Капыль, што раскінуўся на маляўнічых пагорках, між зялёных лясоў і ўрадлівых палеткаў Случчыны. Нарадзіўся я 15 снежня 1921 года..." так пісаў Сцяпан Александровіч у кнізе "Пра час і пра сябе". Першыя краязнаўчыя нарысы, рэцэнзіі, артыкулы С.Х. Александровіча з'явіліся ў 1946 годзе на старонках рэспубліканскіх газет, часопісаў. Затым у беларускіх выдавецтвах адна за адной пачалі выходзіць кнігі "Незабыўнымі сцежкамі", "Старонкі братняй дружбы", "Далёкія зарніцы", "Гісторыя і сучаснасць", "Кнігі і людзі" і інш. Кніга "Тут зямля такая..." стала для многіх літаратараў асаблівым талісманам, пуцяводнай зоркай незгасальнай і палымянай любові да зямлі бацькоў, да таго, як і чым жыў, любіў, працаваў беларускі татарын, адзін з лепшых, яскравых і выдатных сыноў Бацькаўшчыны Сцяпан Хусейнавіч Александровіч. Сёння можна смела сказаць, што пісьменніка, літаратуразнаўца, краязнаўца, педагога, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка культуры Сцяпана Александровіча любіла, любіць і заўсёды будзе любіць уся свядомая Беларусь.

На Капыльшчыне нарадзіўся і адзін з ранніх беларускіх паэтаў, рамантык рэвалюцыйнай стыхіі Алесь Кандратавіч Гурло. Як магутная марская хваля падхапіла рэвалюцыя А. Гурло і панесла яго ў агні класавых бітваў. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў матросам на рэвалюцыйным мінаносцы "Забіяка". Прымаў удзел у рэвалюцыйных падзеях у Петраградзе, штурмаваў Зімні палац. Ён удзельнічаў у вызваленні Яраслаўля ад савінкаўскіх мяцежнікаў, дапамагаў рэўкамам у іх цяжкай барацьбе з бандытызмам. А творчыя вечары ў пецярбургскага асветніка Эпімаха-Шыпілы, цеснае супрацоўніцтва з рэдакцыйным калектывам беларускай газеты "Наша ніва", рабкораўская работа ў бальшавіцкай "Праўдзе", знаёмства з творчасцю Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і іншых беларускіх пісьменнікаў востра адтачылі яго паэтычнае пяро. У канцы 1921 года ён атрымаў афіцыйнае запрашэнне ўрада Беларусі аб пераездзе на сталую літаратурную

работу ў сваю рэспубліку. З гэтага часу і да апошніх дзён жыцця Алесь Гурло аддаваў усяго сябе той вялікай справе, якую распачаў беларускі народ, атрымаўшы дзяржаўнасць. Ён працаваў у рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь", а ў апошнія гады жыцця - у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР у слоўнікавай камісіі.

Прыметнай постаццю ў літаратурным руху 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя быў літаратуразнавец, таленавіты крытык, празаік і паэт Адам Антонавіч Бабарэка, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў літаратурна-мастацкіх згуртаванняў "Маладняк" і "Узвышша". Нарадзіўся Адам Бабарэка ў вёсцы Слабада-Кучынка Капыльскага раёна. Першыя літаратурныя спробы А. Бабарэкі адносяцца да 1918 года, калі ён, як амаль усе беларускія пісьменнікі і публіцысты, працаваў селькорам. У 1920 годзе творы А. Бабарэкі пачалі з'яўляцца на старонках рэспубліканскага друку пад псеўданімамі Якім Каліна, Адам Чырвоны, Адам Гаротны. Яго першыя вершы былі пра рэвалюцыю, новае жыццё і сацыялістычнае будаўніцтва. Яны звярнулі на сябе ўвагу заснавальніка беларускай пралетарскай лірыкі, таксама нашага земляка Цішкі Гартнага. Апавяданні А. Бабарэкі даносяць атмасферу тагачаснай беларускай вёскі ("Каля балота"), нагадваюць літаратурна апрацаваныя ўспаміны з часоў падпольнай барацьбы супраць белапольскай акупацыі ("Цёмнай ночкай"). Гэтай тэме прысвечаны і ўрыўкі з аповесці "Мяцежным шляхам". У гумарыстычных апавяданнях пісьменніка "Мікіта Шпэндзік" і "Як красназорцы зямлі сцураліся" адлюстраваны асобныя моманты жыцця новай сацыялістычнай вёскі. У 1925 годзе выйшла асобная кніжка пісьменніка "Апавяданні". А. Бабарэка быў адным з першых беларускіх крытыкаў, які прыкмеціў арыгінальны, тыпова беларускі сатырычны талент К. Крапівы, высока ацаніў творчасць У. Дубоўкі, П. Труса, прозу К. Чорнага і З. Бядулі, даў усебаковы аналіз выдатнай коласаўскай паэмы "Сымон-музыка". Яго крытычную праніклівасць высока цаніў Я. Колас. Першым з маладых крытыкаў А. Бабарэка пачаў гаварыць пра неабходнасць вывучэння старажытнай беларускай літаратуры, творчасці Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага.

У в. Канюхі Капыльскага раёна нарадзіўся Алесь (Аляксандр Міхайлавіч) Адамовіч (3.09.1927 - 26.01.1994). Доктар філалагічных навук, прафесар. Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны" і медалямі. Як крытык і літаратуразнавец выступаў у друку з 1950

года. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Выйшлі навуковыя працы "Шлях да майстэрства" (1958), "Культура творчасці" (1959), "Беларускі раман" (1961). Вялікай папулярнасцю карыстаецца "Хатынская аповесць". За яе аўтару ў 1974 годзе прысуджана прэмія Міністэрства абароны СССР, а ў 1976 годзе - Дзяржаўная прэмія.

У в. Труханавічы Капыльскага раёна нарадзіўся адзін з першапраходцаў беларускага нарыса, вядомы ва ўсім свеце пісьменнік, паэт, навеліст, нарысіст, публіцыст і крытык Ян (Іван Аляксеевіч) Скрыган. Літаратурную дзейнасць Ян Скрыган пачаў у 1925 годзе вершамі, якія былі апублікаваны ў слуцкай акруговай газеце "Вясковы будаўнік" і іншых перыядычных выданнях. Вершы маладога паэта змяшчаліся ў калектыўным зборніку "Слуцкія песняры" (1926), альманах "Наддзвінне" (1926), "Росквіт" (1927) і "Зарніцы" (1928). Першае сваё апавяданне "Таіса" (1927) ён напісаў пад уплывам рамантычных тэндэнцый, уласцівых для ранняй маладнякоўскай прозы. Яго першая кніга - "Затока ў бурах" выйшла ў свет у 1929 годзе. Пераходу ад паэзіі да прозы спрыялі творы Максіма Горкага, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. За час сваёй літаратурнай працы Ян Скрыган выдаў некалькі цікавых празаічных кніг: "Шугае сонца", "Недапісаны профіль", "Сустрэчы", "Апавяданні", "Скажы адно слова", "Свая аповесць", "Кругі". Ім перакладзены на беларускую мову асобныя творы Максіма Горкага, Фёдара Гладкова, Івана Буніна. Яго творы перакладзены на многія мовы народаў замежжа. За ўдзел у стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ў 1976 г. Яну Скрыгану прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР.

На Капыльшчыне ў 1835 годзе нарадзіўся класік яўрэйскай літаратуры Мэндэле Мойхер-Сфорым (сапраўднае імя Абрамовіч Шолам Якаў). У 1857 г. Шолам-Якаў дэбютаваў на старонках газеты "Гамагід" з артыкулам "Ліст па пытаннях выхавання". На гэты час Шолам-Якаў здаў паспяхова экзамены ў казённым вучылішчы і атрымаў права займацца педагагічнай дзейнасцю. У 1873 годзе з'явілася яго аповесць "Кляча". Сусветную вядомасць Мэндэле Мойхер-Сфорыму прынесла аповесць "Падарожжа Веніяміна Трэцяга". Спачатку твор быў перакладзены на польскую мову, затым пад назвай "Яўрэйскі Дон-Кіхот" з'явіўся на рускай і чэшскай. У 1881 годзе Мэндэле Мойхер-Сфорым назаўсёды асталяваўся ў Адэсе. Займаўся не толькі творчай працай, а і педагагічнай дзейнасцю. Памёр у глыбокай старасці - 8 снежня 1917 года. У 2018

годзе падчас святкавання Дня горада Мэндэле-Мойхер Сфорыму была адкрыта мемарыяльная дошка. Дошка размясцілася на месцы былой хаты, дзе жыла сям'я класіка. Зараз гэта будынак гарадскога ўнівермага. На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і суполак і Мінскага грамадскага аб'яднання яўрэйскай культуры імя Ізі Харыка.

Кожны паэт спявае аб зямлі, якая яго нарадзіла. Міколу Хведаровіча сапраўды можна лічыць улюбёным пясняром роднай зямлі. Ягоныя бацькі - беларускія сяляне. Мікола Хведаровіч заўсёды з гонарам гаварыў пра роднае мястэчка, зямлю сваіх бацькоў: "Але куды б ні закідаў мяне лёс, дзе б я ні быў… калі… пыталіся: "Адкуль вы родам? З якіх мясцін?" - я з гонарам адказваў, што па нацыянальнасці я беларус, нарадзіўся на Случчыне, у мястэчку Капыль. Гэта - мая радзіма. З глыбокім хваляваннем я заўсёды ўспамінаю сваё маленства, сваю маладосць, першае знаёмства са слаўнымі землякамі - цяпер шырока вядомымі пісьменнікамі - Цішкам Гартным, Алесем Гурло, Кузьмой Чорным і іншымі". У адным са сваіх вершаў Мікола Хведаровіч з вялікай замілаванасцю скзаў пра свой край:

Мы, капыляне, - ўсе паэты.
Такая наша ўжо зямля.
І паважаюць нас за гэта -
Шчаслівы той, хто з Капыля.

Багатую духоўную спадчыну нашай Капыльшчыны стараюцца прымножыць сучасныя аўтары. Сярод іх Алесь Бельскі, Алесь Марціновіч, Аляксандр Афяроўскі, Леаніда Падвойская, Іван Канановіч і многія, многія іншыя.

***Ірына Пятровіч.***



## Анатоль Астрэйка

*Анатоль Астрэйка, сапр. Акім Пятровіч Астрэйка (24 ліпеня 1911, в. Пясочнае, цяпер у Капыльскім раёне - 23 жніўня 1978) - беларускі паэт, паэт-песеннік.*

*Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў двухгадовыя настаўніцкія курсы пры Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме (1930), вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута (1932-1934). З 1930 працаваў у газетах Полацка, Оршы, Горак, Мінска. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1939. Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў адказным сакратаром сатырычнай газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну". Двойчы (1942, 1943) накіроўваўся на акупаваную тэрыторыю Беларусі. У 1946-1948 - старшыня Гродзенскага аддзялення СП БССР, у 1948-1953 - адказны сакратар часопіса "Вожык".*

*Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, "Знак Пашаны" і медалямі.*

*Вершы пачаў друкаваць у 1928. Першы зборнік вершаў "Слава жыццю" выдадзены ў 1940. Рукапіс другога зборніка - "Квецень" згарэў у час вайны ў Мінску. У 1943 друкарня слуцкай падпольнай газеты "Народны мсцівец" выпусціла зборнік "Слуцкі пояс". У пасляваенныя гады выйшлі кнігі паэзіі "Крамлёўскія зоры" (1945), "Добры дзень" (1948), "Зямля мая" (1952), "Песня дружбы" (1956), "Бацька мой Нёман" (1961), "Сэрца насцеж" (1965),*

*"Цвіціце, верасы" (1975), "Зямная Случчына" (1977), "Ураджай цяпла" (1978), "Памяць дарог" (1980), а таксама вершаваная казка "Елка" (1949) і паэма для дзяцей "Прыгоды дзеда Міхеда" (1956). Выдадзены Выбраныя творы ў 2 тамах (1970, 1981).*

*Перакладаў творы пісьменнікаў народаў СССР на беларускую мову.*

*Творам Астрэйкі ўласцівыя сардэчнасць і адкрытасць, цесная сувязь з фальклорам, напеўнасць. Аўтар тэкстаў многіх беларускіх песень: "Ой бацька мой, Нёман", "Песня пра Заслонава", "Шаўковыя травы", "Песня мінаеўцаў".*

* * *

Красуе ўсё ў маёй старонцы.
Спакоем дыхае зямля.
З-за лесу выплывае сонца,
Каб росы выпіць спакваля.

Звіняць касілкі, свішчуць косы
У летняй маладой траве.
Шум з сенажаці шматгалосы
Ажно да гарадоў плыве.

Няма на небе ні хмурынкі,
Цалуе Нёман берагі.
Як на гародзе мак, хусцінкі
Сягоння ўквецілі лугі.

Павеяў вецер бестрывожны,
Лінула сонца гарачынь.
Травою спелаю, мурожнай
Уся запахла далячынь.

*(1933)*

## Усё мне тут дарага

Бярозкі, бярозкі, ружовыя клёны,
Алешнік ля рэчкі, плакучка-вярба.
Як снег, павуцінне на зжатых загонах,
І ўночы асенняга ветру журба.

І стрэхі на хатах, што копы старыя,
І ў морак прадранішні з коміна дым,
І сцежкі на Нёман і Вусу крывыя,
Якія сходзіў хлапчуком я малым.

І стужкі лясоў, што Пясочна абводзяць:
Падцацкаўскі бор, Перадзел, Нізаўскі,
З Вугленскага ельніку сонца ўзыходзіць
І падае к вечару ў лес Асаўскі.

Усё мне тут дорага, міла да болю -
І песні людскія, што рвуцца з грудзей,
І поле на ўзгорках, шырокае поле,
І гоман спакойна-паважны людзей

За усё ж даражэй мне адданасць народа.
Ніхто нас за справы нічым не ўпікне.
Ад бітваў крывых, ад слаўных паходаў
Мае землякі не былі ў старане.

*(Пясочнае, 1945)*

## Капылю

Здалёк, за вёрст, магчыма, пяць
Ажно з Рымлянскае гары,
Мой гарадок Капыль відаць,
Яго будынкі і двары.

Яго старыя курганы,
Мо, не адну стаілі быль

Пра дні бяды, пра дні вайны,
Як рос, змагаўся мой Капыль.

У гэтым горадзе не раз
Для твораў любасць і цяпло
У светлы свой юнацкі час
Збіралі Гартны і Гурло.

Хаця не давялося ім
Дажыць да пераможных дзён.
Яны наказвалі жывым
Нанесці Капылю паклон.

Паміж руінаў я стаю.
Што крок - магілы пры сцяне.
Слязу ў вачах я не таю,
Так горка і балюча мне.

Паклон магілам дарагім,
Табе паклон, мая зямля.
Я шчыра ганаруся тым,
Што родам сам з-пад Капыля.
*(1945)*

## Ландышы

Я іх табе вясной прынёс
З зялёнае лясное далі.
Празрыстыя крупінкі рос,
Яшчэ на лісцях трапяталі.

Пачырванела ты ў адказ
На мой паклон і прывітанне.
Хай песняй стане гэты час
Майго юнацкага кахання!

Не вінаваты я, што мы,
Чаго няма, таго і просім.

Не злуй, што я сярод зімы
Табе тых красак не прыносіў.

А ты кіўнула галавой,
Маўляў, дарма сябе трывожыш:
- Яны патрэбны мне зімой,
Вясной прынесці кожны зможа.
*(1945)*

**Край мой родны**

Куток мой мілы, край мой родны,
Маё жыццё і мой ты шлях!
Якая дзіўная лагоднасць
На рэках і тваіх палях.

Як я люблю твой кусцік кожны,
Узгоркі, кудзеркі бяроз.
Хаджу па травах асцярожна
І пацеркі збіраю з рос.

Іду я сцежкай палявою
Паміж сівых жытнёвых хваль.
Палеткі пахнуць сырадоем,
Вясенні свой праўляюць баль.

Стракочуць конікі на ўзмежку,
Не моўкне жаўруковы звон,
І сонца залатыя ўсмешкі
Шле веснім далям наўздагон.

Сябе я адчуваю злітым
Сваім і сэрцам, і душой
З прасторам неаглядным жыта,
З усёю музыкай зямной.

## Матулі

Мая дарагая матуля,
Прывет і паклон мой табе,
Тваё я закляццс ад кулі
Заўсёды нашу пры сабе.

Ты цёмныя ночы не спала,
На белай кашулі ў намёт
Ты мне васількі вышывала,
Калі я збіраўся ў паход.

Аж тройчы ты ў зёлках купала
Пад месяцам поўным знарок
Кашулю і нітак клубок,
Каб куля мяне не дастала.

Сушыла пасля ля кургана,
Сцяліла на нейкай траве,
Да золка выходзіла рана
Малітвы нашэптваць свае.

Далёкая, мілая мама,
Я знаю - каб толькі змагла,
Не зёлкамі ты, а рукамі
Бяду ад мяне адвяла.

Хоць я і не веру ў закляцце,
Але ж у кашулі тваёй,
Мая незабыўная маці,
Смялей урываюся ў бой.

## Пачатак Нёмана

Малая здаецца крыніца,
А вычарпаць нельга да дна,

Шапоча над ёю ігліца,
Ратуе ад спёкі сасна.

Прыходзяць ласі і лісіцы
Звярынай сцяжынкай сюды,
Ніколі лясная крыніца
Для іх не шкадуе вады.

К сасне прылятаюць сініцы,
З замшэлых ялін глухары
Сцюдзёнай вадой асвяжыцца
З крыніцы, што ў нашым бары.

Крынічка спявае, смяецца
І рада між звонкіх сасён,
Што к ёй у люстэрка глядзецца
Прыходзяць бярозка і клён.

А з той невялікай крыніцы,
Як нітачка праз хмызнякі,
Струменьчык вясёлы бруіцца -
Пачатак славутай ракі.



## Цішка Гартны

*Постаць у нашай гісторыі, у нацыянальнай свядомасці, напэўна, самая трагічная. І не толькі для першай паловы XX стагоддзя, наогул для XX стагоддзя...*

*Капыляне добра ведаюць гэтае імя. І ў адносінах да гэтага чалавека мы часта ўжываем слова "першы". І сапраўды ён быў першапраходцам у многіх галінах дзейнасці. Першым шырока ўвёў у беларускую паэзію вобраз селяніна-мужыка, быў аўтарам першага беларускага рамана "Сокі цаліны", з'яўляўся рэдактарам і выдаўцом першай газеты на беларускай мове "Дзянніца" і што самае галоўнае з 1 студзеня да 3 лютага 1919 года з'яўляўся старшынём першага беларускага ўрада Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь.*

*Нарадзіўся Цішка Гартны (Зміцер Хведаравіч Жылуновіч) 23.10 (4.11.) 1887 года ў мястэчку Капыль. "То была пара, калі ў хаце пераходзілі ад цяжкае падзёншчыны на нудную, чуць не дарэмную "здзельшчыну"", - скажа пазней пісьменнік у аўтабіяграфіі.*

*Цішка Гартны ўвайшоў у гісторыю айчыннай літаратуры як паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык і даследчык гісторыі беларускага мастацтва і сацыяльных праблем на Беларусі.*

*Сёння ў нас, на Капыльшчыне, імя гэтага чалавека ўшаноўваецца.*

*Адной з важных падзей у культурным жыцці нашага горада і раёна сталі*

*"Капыльскія чытанні", прысвечаныя 130-годдзю з дня нараджэння Зміцера Хведаравіча Жылуновіча (Цішкі Гартнага). Яго імем названы дзве вуліцы ў горадзе (вуліца Ц. Гартнага і вуліца Жылуновіча), яго імя прысвоена сярэдняй школе № 2 г. Капыля. Каля раённага краязнаўчага музея ўстаноўлены бюст Ц. Гартнага, а каля хаты, дзе ён нарадзіўся - мемарыяльная дошка.*

**Капыль**

Капыль, Капыль! Маё мястэчка,
Вялікай Міншчыны куток!
Мне міла ўсё тваё: і рэчка,
І хаты, нівы і гаёк…
Вакол яго снуе далінай
Шнурок вясёлы раўчука,
Якога нам, бы матка сына,
Спакон вякоў дала рака,
Што там магутна воду гнала
І чоўны рэзвыя нясла,
Бурлівай хваляй узгорак рвала
І крыгай мост стары трасла…
А далей - вокал роўна нівы
Свае шнуркі к гаям вядуць,
Што цёплым летам людзям жніва
За працу цяжкую даюць.
На нівах густа разраслíся
Астаткі шведскае вайны,
Што ў час вяковы не звяліся
Ў траве зялёнай курганы.
Пад іх грамадаю маўкліва
Ваякаў слаўных косці спяць,
Пайшоўшых смела ў час прызыву
Свой родны край абараняць.

Між тых курганаў, на адгону,
Высокі замак з цьмы вякоў
Устае, як сведка ўлады і закону
Старых часоў, сваіх князёў.
Калі ж паглядам далей кінем
Туды, дзе ніў канец ляжыць,
Хваёвы бор, як вострым клінам,
Сцяной зялёнаю стаіць.
Старыя хаткі сумна зніклі
З зялёным мохам на страсе,
І спяць-маўчаць, нібы прыціхлі,
Як заваражаныя ўсе…

* * *

…Люблю людзей тваіх схудзелых,
Іх сумны, змучаны пагляд,
З саломы новай жоўта-белай
Страхі ўбогіх нізкіх хат.
Працягі пыльных вуліц летам
І зелень рутную садоў;
Зімою з пекна разадзетых
Наслоем выпаўшых снягоў…
Усё, усё люблю, як толькі
Хто можа так калі любіць!
І точаць сэрца маё болькі,
Што людзям цяжка яго жыць.
Што лёс сібірны на працягу
Сямі з паловаю вякоў
Прыбіў у ім да шчасця цягу,
Занявовіў гордых жыхароў…
А ўсё ж сярод той цёмнай ночы
Яго маркотнага жыцця
Праменне яснае бліскоча
І родзіць хвалі пачуцця.

* * *

Чакай і вер ў настанне лета,
Капылю роднага жыхар!
…………………………..........
Калі ў зямлі ляжыць крыніца,
То кверху выб'ецца яна!
Дзе дух жывы не змог стушыцца -
Там смерці тупіцца каса.

*(1914)*

**Загудзі ты, вецер**

Загудзі ты, вецер,
Скалыхні вярбіну;
Заспявай ты песню,
Мілая дзяўчына!

Заспявай, як птушка
Летняю парою,
Как было мне шчасна
Пасядзець з табою;

Каб сагнала песня
Усю нуду ліхую
І ўвабрала душу
Ў вопратку другую:

Радасці, вяселля,
Шчасця і любові...
Каб нуды сарвала
Моцныя аковы...

Заспявай, галубка,
Заспявай, дзяўчына!
Скалыхні ты, вецер,
Скалыхні вярбіну.

*(Капыль, 1909)*

## Восень

І сумна, і нудна, і вецер пяе -
Асенняя песня жудой аддае...
Прыбрана ў полі, і пуста вакруг,
Адзежаю смутна апрануты луг.

Расліны жывое нідзе не відаць,
Ні голасу птушак нідзе не чуваць.
Толькі і ўбачыш па чорнай раллі
Сямейку сяўцоў невясёлых калі.

Ды мучаюць вуха ўсё крыкі варон,
Злятаючых ў кучу з усенькіх старой.
Ды вока яшчэ хіба можна спыніць
На нівах адзетых, дзе рунь зеляніць.

І сумна, і нудна! Пад вечар і з рання
Бялеюць усюды густыя туманы.
І хмаркі, як дзеці заклятай нуды,
Пярэсцяць і смуцяць там неба ўсягды.

І сумна, і нудна! І жаль так бярэ,
Што восень ізноў зажыла на дварэ,
Што так неўспадзеўкі ў нягаданы час
Цяпло і прыволле пакінула нас.

*(1909)*

* * *

Без пары памёр ты, браце,
Адышоў ад нас,
Не знайшоў ты ў роднай хаце
Жыцейка пакрас.

Не дала ліхая доля,
Што ж хацеў ты мець,

Каб у пакуце і няволі
Моцна не цярпець.

Ажно скрыдлы тваіх думак
Вецер адсякаў
І смяротны пацалунак
З смехам пасылаў.

Вось змардованае сэрца
Ў хвалях пачуцця
Запрасіла лепей смерці,
Чымсь пакут жыцця.

## Роднай краіне

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе відаць на абшары кругом
Курганы, і пустыя раўніны,
І балоты, зарослыя мхом.

Я люблю гэты вобраз краіны,
Дзе Дзвіна й чысты Нёман плывуць,
Між лясоў, паміж гор, праз лагчыны
Свае воды у мора нясуць.

Дзе раскінуліось шэрыя вёскі,
А ў іх родныя песні чутны,
Песні - долі людской адгалоскі,
Песні - жальбы загнанай душы.

Я люблю гэты вобраз бясконца,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру, мо, у гэтай зямлі.

## Красуй, збожжа!

Красуй, збожжа майго краю,
Каласісь багата!
Жджэ за працу ўраджаю
Ад цябе араты.
Хлебароб, аддаўшы сілы
Свайму полю-ніве,
Усміхнецца табе міла,
Што ты ўрадліва.

* * *

Красуй, збожжа майго краю,
Каб зярно злілося
У адплату аратаю
Ў ядрыя калоссі!
Сонца, з неба шлі праменні,
Залаці чароўна!
У землю кінута насенне -
Уродзіць колас поўны.

* * *

Красуй, збожжа майго краю,
Убірай палеткі!
Хай з табою аратая
Весяляцца дзеткі.
Плён за працу верне ніва -
Уцешыць думкі, вока,
Як паўныя вазы жніва
Пагрымяць да току.

*(Вількамір, 1910)*

## У дарозе

У небе зоры міргаюць, гараць
Ды зіяе яскравага месяца круг,
Дзе-нідзе кучкі хмарак вісяць,
То сабраўшыся ў колка,
То звіўшысь ў ланцуг.
Паміж лесу расцёгся туман,
Нібы спушчаны з неба дыван.
Між шырокіх зялёных палёў
Уецца вёрткая вузкая сцежачка-пуць,
Праз лясы каля гор ды равоў
Коні зважна па ёй дробнай рыссю бягуць.
І ў спакойным прасторы кругом
Чуцен водгалас рэзвенькіх бом.

У баку дзесь траскоча дзяргач,
Ды цвыркунчыка рэзкая рэч трапаціць...
"Но, малыя! Старайцеся ўскач!" -
Паганяючы коні, рамізнік крычыць.
"Пасяшайце старанна, гэй, гэй,
Каб да месца даехаць хутчэй!"
І ахвотныя коні спяшаць,
Чым хутчэй ды праворней ляцець ды ляцець...
І ўваччу маім нівы мігцяць,
Ды вятрыска супроцьны паціхеньку дзьмець!
"Гэй, запой што, фурман, для мяне,
Каб ды спаць не хацелася мне!"
Фурману я паціху шапчу
І чакаю спявання на гэта ў адказ,
Прытаіўшыся, чутка маўчу,
І вось чую, пяе: "Не апошні я раз
Цябе бачыў, радзімая, там!.."
Яму ж рэха ўтуруе: та-ам!
І так лёгка на возе сядзець
Пад вясёлыя песні рамізніка й бом
Ды ўдаль за дарожкай глядзець
Пад чароўным нябесным ў агнёх дыванам,
Паглядаці, як коні бягуць
У сівую туманную пуць!..

*(Магілёў, 1910)*

## Восень

З поўначы цёмнае, сіверу дальняга
Нудная восень прыйшла.
З поля ўбранага, з лугу зялёнага
Жыцце-красу прыняла.

Холадам, сцюжаю разам павеяла,
Смерць за сабой прынясла.
З дрэва прыбранага, лісцем адзетага,
Уборы сарвала, страсла.

Птушак міленькіх з краю радзімага
Ў вырай загнала ад нас;
Песні іх мілыя, дзіўна пяныя
Ветрам заглушыла ўраз.

Ветрам, навеяным з дальняга сівера,
Хмар прынясла за сабой,
Неба высокае, сінекрыштальнае
Ўсё спавіло туманом.

Восень ты нудная, восень дажджлівая,
Ты немінуча ўсягды.
У сэрца балючае, у душу сіротную
Многа ліеш ты нуды.

*(1910)*

## Бачыў я...

Я бачыў, як хмары на небе збіраліся,
Як з кожнай часінай яны пагушчаліся,
Цямлівасцю сажы хутчэй фарбаваліся
Й шпарка кудысьці плылі,
Сеючы цем па зямлі.
Бліскучае сонца пад імі закрылася,
Заслонаю, здэцца, вакол зачынілася
Усё, што хоць каліва светлым зарылася,
Стухла і знікла нашчэнт!
Жудасным быў той мамэнт!
Прагучае сэрца ў грудзёх патрывожаных
Як бы скамянеўшы, або пераможана
Замерлым маўчала, жудою абложана;
Думкі снавалі весь час -
Бачучы страшны абраз.
Усё, што ад сонца па шчэлях хавалася,
Уцехаю бурнай святошняй вабралася
І раптам у купу адну пазляталася
Свята сваё святкаваць -

Зручны мамэнт карыстаць.
І толькі ўзнялася гульня іх развівая,
Як раптам сапнула вятрыска бурлівае
І з неба пагнала ўсцяж хмары цямлівыя
Дзесьці далёка, за бор -
Сонцу даючы прастор.
І следам за цем'ю хутчэй паказалася
Праменне, што ў небе за хмарай хавалася,
І мігам з зямлёю халоднай звянчалася,-
У песнях і неба, і дол
Рэзвым жыццём забурліла вакол.
А сэрца, спаткаўшыся з хуткаю зменаю,
Змярцвеласць сагнала пакутную, пленную,
Забілася радасцю соладка-пеннаю,
Чуючы голасна воклічны: "Устань!
Усё, што жыве, аддаць сонцу вітань!"

*(Капыль, 1910)*

* * *

Мець бы жыццё бессмяротнае мне,
Мець бы вечныя свежыя сілы;
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

На кускі, на крупінкі, як пыл,
З кожным днём я б па ёй разлятаўся
І часціны нязмераных сіл
Ў кожным месцы даваць бы стараўся.

А дзе трэба было б заплаціць
Дзеля шчасця народа сабою,
Я хутчэй пастараўся б там быць
І сваёй адкупіцца душою…

І так з году ў год, да тых дзён,
Па кусочку б ў ахвяру я клаўся,

Пакуль цяжкае долі праклён
З стараною маёю расстаўся.

Каб жыццё бессмяротнае мець,
Каб мне вечную свежую сілу,
Я аддаў бы усё старане,
Старане сваёй роднай і мілай!

**Каваль**

Многа працы ў мяне -
Хоць ўсю пору працуй!
Грэй жалеза ў агне,
Вымай з горну й куй.

Молат важкі трымай
Над кавадлам якраз,
Знізу ўверх паднімай,
Зверху ўніз, раз у раз.

Адвярніся наспех,
Як сумееш урваць -
Не забыцца, каб мех
У свой час паддуваць.

Адно іскры ў бакі
І да верху лятуць,
Як паважна з рукі
Малаты важка б'юць.

Раз - другі, і сашнік
Можа ў поле ўжо браць
Гарацешны мужык,
Сваю ніву араць.

Трэба шворан у воз -
Я згатую як след;
Абіць буксу калёс -
Я й да гэтага мэт.

Рукі знаюць настрой,
Молат ўслушны ка мне.
На ўсё жыцце цяжкой
Працы хопіць ў мяне.
*(Магілёў, 1911)*



**Казімір Кухарчык**

*Кухарчык Казімір Іосіфавіч (кіраўнік літаб'яднання "Вясёлка"), нарадзіўся 03.04.1952 года ў в. Каменка Капыльскага раёна. Член ГА "Беларускі саюз журналістаў".*

*У 1981 годзе скончыў факультэт журналістыкі. З 1972 па 1995 год працаваў у рэдакцыі газеты "Слава працы", з 1995 года начальнікам аддзела кадраў РТМА. Узнагароджаны Дыпломам Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў аховы здароўя.*

*Зараз на пенсіі.*

.

* * *

… Гром грыміць, і маланка бліскае,
За вакном моцны дождж шпарыць…
Не цябе, а падушку ціскаю,
Пра цябе ўсю ноч хачу марыць.

Але зноў туман вечар прыкоціць,
Расцярушыць расу па доле,
Маё сэрца зноў замаркоціць…
Дык рашуся. Цяпер! Ці ніколі!

І вось вочы ўбок адводжу,
Прапанову раблю я шчыра,
З тупіка быццам душу выводжу,
Адпраўляю тугу ў вырай!

Ты бянтэжышся. Але, здаецца,
Усё ж надзея мая не дарэмна,
Бо забілася ж тваё сэрца,
Бо і я не такі нікчэкмы.

* * *

Я цябе ўсё больш кахаю,
Ды твайго лёсу не знаю.
Можа стацца - мяне кінеш,
Ды каханне не загіне.
У мяне яго так многа,
Што не знойдзеш ты нікога,
Каб цябе мацней кахаў,
Сваё сэрца аддаваў.
Яно ў сівер, у халады
Будзе грэць мяне заўжды,
З табой кожнае імгненне
Гарэць будзе, як паленне.

* * *

За вакном вады
кроплі падаюць,
Ды мяне сляды
твае радуюць…
Не мая хоць ты
і не будзеш ёй,
Ды чакаю я
постаці тваёй.
Абдыму цябе -
бы ўкраду ў каго,
Прытулю к сабе…
а хачу чаго?
А хачу цябе,
каб мая была,
І забуду ўсё
ля свайго жытла…

Крэсла хай рыпіць,
тэлефон звініць,
З хмаркі месячык
на мяне глядзіць.
Свеціць на цябе,
усміхаецца
І зайздросціць мне,
ухмыляецца…
Страйней зорачкі
ў яго няма,
Мякчэй хмарачку
і шукаць дарма
Бо няма такой
і не будзе ўжо,
Нават за ракой
з светлай назвай Сож.
А з капыльскіх гор,
хоць бліжэй да зор,
Ды не вабіць мяне
іх прыгожы ўзор.
І ўвесь Млечны шлях
за цябе аддам,
Спакушу цябе,
як Еву Адам.

* * *

Я колеру тваіх вачэй не разабраў,
Ці ж важна, якім святлом яны свецяць?
Але без іх сябе б я абакраў,
Але без іх цябе б я не прыкмеціў.

Што за жыццё мне без цябе было б?
Ні рай, ні пекла, і ні смех, ні скруха:
Праблемы білі б прама ў лоб,
І беды ўсё свісталі міма вуха.

Не, без праблем й цяпер я не жыву,
Яны штодня мяне даймаюць,
Ды я свядома паміж іх плыву,
Кахання вёслы б'юць іх, патапляюць…

Толькі з адной праблемай не магу
Я справіцца. І ты не дапаможаш.
Ды пра яе я ў вершы ні гу-гу:
Праціўніка няма - не пераможаш.

* * *

Ці ёсць прыгожай за цябе?
Ёсць.
Але ў лёсе я тваім
Не госць.
Ты ў сэрцы месцейка знайдзі
Мне
І смела па маёй прайдзі
Пачуццяў цаліне.
Пяшчоты плугам не ўзняць,
Як ні старайся,
Каханне ж вучыць дараваць,
Дык не цурайся.
Табе нашкодзіць не магу,
Ведай,
Мне разагнаць тваю тугу
Трэба.
Хай вочы свецяцца цяплом,
Ласкай,
Хай паўтараецца заўжды
Казка.



## Мікалай Майсюк

### *Аўтабіяграфія*

*Я, Майсюк Мікалай Пятровіч, нарадзіўся 28 жніўня 1961 года у вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна Мінскай вобласці. У 1978 годзе паспяхова закончыў мясцовую школу, паступіў у Мінскі педагагічны інстытут імя Максіма Горкага. Праз чатыры гады атрымаў дыплом настаўніка матэматыкі і быў накіраваны на працу ў свой родны раён, дакладней, у Капыльскую дапаможную школу-інтэрнат, што размешчана ў вёсцы Калінаўка-2, дзе і працую па сённяшні дзень.*

*Мая апора і падтрымка - жонка Алена, з якой мы жывём больш за сорак гадоў. Маем сына і дачку, пяцёра ўнукаў.*

*Вяду актыўны лад жыцця: удзельнік мастацкай самадзейнасці, спартыўных спаборніцтваў і іншых мерапрыемстваў. Член літаратурнага аб'яднання самадзейных паэтаў Капыльшчыны "Вясёлка". Вершы пішу на беларускай і рускай мовах. Тэматыка творчасці разнастайная. Друкаваўся ў раённай газеце "Слава працы", зборніках вершаў "вясёлкаўцаў". Большасць вершаў нараджаецца разам з мелодыяй.*

*Жыццёвае крэда - "Хто, калі не ты?". Камсамолец у душы, звычайны шчаслівы чалавек.*

## Тут мая Радзіма

Над бярозай белай кружыць белы бусел...
Белы бэз красуе пад маім акном...
З радасцю ў сэрцы гэтым ганаруся:
Тут мая Радзіма, мой бацькоўскі дом.

Сінія, як неба, васількі ў лузе...
Сінія азёры і палі з ільном...
З радасцю ў сэрцы гэтым ганаруся:
Тут мая Радзіма, мой бацькоўскі дом.

Да зялёных ніваў, дзе б ні быў, вярнуся,
Да лясоў зялёных, што шумяць кругом...
З радасцю ў сэрцы гэтым ганаруся:
Тут мая Радзіма, мой бацькоўскі дом.

Шчырыя спрадвеку людзі ў Беларусі...
Мы з душой працуем, з песняю жывём...
З радасцю ў сэрцы вам я пакланюся
І табе, Радзіма, мой бацькоўскі дом.

## Малая Радзіма

Да роднае хаты я зноўку вярнуўся...
Як хораша тут, дзе бацькоўскі парог!
І зноў у дзяцінства сваё аглянуся,
Хоць шмат за плячыма гадоў і дарог.

Малая Радзіма - часцінка вялікай -
Яна мне на свеце за ўсё даражэй,
Бо стала пачаткам жыцця і адліку
Маіх светлых мар і крылатых надзей.

Усё мне тут родным і блізкім здаецца:
Я рукі раскіну, прастор абдыму!
І песня ад самага сэрца пальецца
Пра корні святыя - маю старану.

Блакітныя вочы, і русыя косы,
І рэк паўнаводных тваіх паясы...
Не трэба мне іншае долі і лёсу,
Чым дотык адчуць гэтай дзіўнай красы!

Зялёныя нівы - ступень дабрабыту,
Багацце лясоў - дар матулі-зямлі...
Ніхто і ніколі не будзе забыты,
Пажары вайны нас зламаць не змаглі...

Хай бусел у сем'і зноў радасць прыносіць,
А жаўранак мір нам нясе і вясну!
Хай дзеці ратунку ніколі не просяць
І толькі па кніжках спазнаюць вайну.

Мы з вамі - не госці на роднай Радзіме:
Мы - гаспадары, шчасце ў нашых руках!
А мілы куточак нас не пакіне:
Ён з намі заўсёды наяве і ў снах!..

## На варце міру

На варце міру - помнікі вайны:
Тут спяць Радзімы верныя сыны...
На Беларусі ўсёй - мільёны іх,
Як прыклад мужнасці для нас, жывых.

На варце міру помнікі стаяць,
Іх зоркі пяцікутныя гараць,
Тут шчыміць сэрца нам і душу рве,
Бяссмертны подзвіг сілы прыдае.

На варце міру - помнікі, як боль:
Хатынь, Азарычы, і Брэст, і Лаўскі бой...
Няўжо не досыць гэтакіх ахвяр,
Каб сёння смерці зноў глядзець у твар?!

На варце міру - помнікі-набат:
Знішчаў фашызм савецкі наш салдат,
Каб на зямлю вярнулася вясна,
Бо не патрэбна нам праклятая вайна!

На варце міру - помнікі-наказ
Тых, хто аддаў жыццё сваё за нас:
Мір берагчы, любіць і хлеб расціць,
Нікога і нічога не забыць!

## Мая вёска

Як мне вёску сваю не любіць!
Яна дзеўчынай вабнай стаіць
Сярод соснаў, ялін і бяроз -
Да яе я карэннем прырос.

Тут жыве працавіты народ,
Любяць песні ў кожным двары;
На прыродзе тут столькі прыгод!
Не любіць вёску нельга, сябры.

Летам выйдзеш у луг раніцой:
Травы мыюцца чыстай расой,
Заліваецца ў небе жаўрук,
Цягне дзеда на рэчку ўнук.

Як прыемна па лесе прайсці:
Паглядзіце - якія дары!
Цуда большага нам не знайсці,
Чым ля роднае вёскі, сябры.

Я хачу, каб усе бераглі
Прыгажосць сваёй роднай зямлі:
Сваю вёску, рачулку і лес,
Дзе ля хаты цвіце белы бэз,

Дзе птушыныя песні - для нас,
Дзе нам радуюць вока звяры...
Хто пабудзе ў вёсцы хоць раз,
Той яе не забудзе, сябры.

Мая вёска, ты мой лёс, мая надзея!
Я з табою, вёска, быццам маладзею,
А ваколіца твая дае мне сілы...
Не пакіну я цябе, куточак мілы...

### Капыльскі край

На карце Міншчыны, у цэнтры Беларусі
Ёсць слаўны горад з гучнай назваю - Капыль;
Найлепшы ў свеце ён, і тым я ганаруся,
Што мары тут ператвараюцца ў быль.

Дары лясоў зялёных, чыстае паветра,
Чароўны водар кветак казачных лугоў,
Багаты скарбамі ў нас зямныя нетры,
І льецца шэраг рыбных рэчак-паясоў.

Узровень спорту дасягнуў высокай рэйкі,
Між хлебных ніў цячэ малочная рака,
Людзей яднаюць творы Чорнага, Астрэйкі,
І разам песні мы спяваем Русака.

Капыльскі край, ты даў герояў нам нямала:
На ратны подзвіг землякоў вёў сэрца кліч.
Ты зведаў пекла нам далёкага Афгана,
Мы помнім Лаўскі бой і слёзы Масявіч...

Люблю цябе, Капыльскі край,
Табе заўсёды я буду родным, верным сынам!
І свеціць нам усім няхай
На мірным небе зорка роднае Радзімы!

## Ці ж можна забыць?

Дзіцячыя слёзы - як раны на сэрцы...
Дзіцячыя слёзы - сапраўдны боль...
І памяць аб іх не парушыць, паверце,
Здабыты ў баях светлы мір і спакой!

Ці ж можна забыць, як фашысцкія каты
У дзетак маленькіх высмоктвалі кроў?
Як плакалі моўчкі сівыя солдаты,
Хаваючы трупы дзяцей з лагяроў.

А тых, хто застаўся жывымі ў палоне,
Да сэрцаў сваіх прыціскалі яны:
"Даруйце нам, дзеткі, - і чулі далоні,
Як плачуць маленькія сведкі вайны.

Ці ж можна забыць нам жамчужыны-слёзы
На тварах дзяцей, што дамоў не дайшлі,
З кавалачкам хлеба на лютым марозе
Ля дрэва старого прытулак знайшлі?

А колькі каштуе слязіна дзіцяці,
Якое на ўласныя вочы свае
Пабачыла здзекі фашысцкія з маці?
І хочацца плакаць, а слёз не стае...

Ці ж можна забыць крэматорныя печы,
Што дзеткам малым не давалі пажыць?
З дарослымі побач гарэлі малечы -
Іх слёз не хапала агонь патушыць.

У чым вінаватыя дзеці Хатыні?
А вёсак такіх на зямлі нашай шмат.
Як слёзы гарацць, вы спытайце ў каменяў
Ды толькі дзяцей тых не вернеш назад...

Ці ж можна забыць нам, як слёзы ліліся,
Калі пахавальная вестка дамоў
Прыходзіла раптам? "Татуля, вярніся!"
Ды толькі не ўбачыць татулечку зноў.

Як маці хварэла, дзіцятка не спала,
Акрайчык апошні... "Бяры, мамка, еш,"-
І слёзы свае рукавом выцірала...
"Давай напалову з табою. Разрэж."

Ці ж можна забыць нам падлеткаў ваенных
Дарослымі стаўшых з дванаццаці год;
Якія заўжды працавалі сумленна,
Прыйшоўшы заместа бацькоў на завод?

Ці тых, што касілі, аралі ў полі
На фронт адпраўлялі сваю зброю-хлеб?
Каб нелюдзі гэтыя болей ніколі
На нашай зямлі не шукалі патрэб.

Ці ж можна забыць нам пра слёзы дзіцяці,
Згубіушы якое знайсці не змаглі?
І нізкі паклон вам усім, тыя Маці,
Што душу тым дзецям сваю аддалі!

А хто паспытае сірочую чашу,
Той больш не захоча ніякай вайны,
Каб дзеці крычалі: "Матуля, мне страшна!"
Каб плакалі з горкае долі наўзрыд...

Дзіцячыя слёзы - як раны на сэрцы...
Дзіцячыя слёзы - сапраўдны боль...
І памяць аб іх не парушыць, паверце,
Здабыты ў баях светлы мір і спакой!..

**Храмам стане ўся зямля...**

Мне часта задаюць пытанні:
"Чаму мінаеш ты царкву?

Ці быў ты хоць калі ў храме?"
Не толькі быў - я там жыву.

Мой першы храм - улонне маці.
Ён з храмаў - самы дарагі,
Хоць і не церпіцца дзіцяці
Яго пакінуць берагі.

Бацькоўскі дом - галоўны з храмаў.
І варта на парог ступіць,
Як гояцца любыя раны...
Нам нельга без яго пражыць.

Сям'я заўжды была ў пашане
Ва ўсіх народаў і краях,
Бо менавіта ў гэтым храме
Жыццю ствараецца працяг.

Мой храм - радзімая старонка:
Пагоркі, рэкі і лясы...
Гучаць у сэрцы песняй звонкай
Яе бурштынкі - галасы.

Яшчэ мой храм - сябры дзяцінства,
Краіна светлых казак-сноў.
Ён - сімвал дружбы і адзінства,
Куды, на жаль, не трапіць зноў.

А што для нас усіх бальніца,
Калі не храм? І сапраўды:
Тут выпала на свет з'явіцца,
Сюды імкнёмся ў час бяды.

Мы ўсе прайшлі праз храм навукі,
Дзе шмат было ўпершыню:
І першы клас - наш "аз" і "букі",
І першае: "Цябе люблю".

А ці не храм бібліятэка -
Крыніца мудрасці, дабра?
Тут невук стане чалавекам -
Цуд створаць геніі пяра.

Музейны храм - для ўсіх святыня,
Дзе душу лечыць прыгажосць,
Цяплом спаткае і абдымае:
Ты для яго - шаноўны госць.

Канцэртны зал, кіно, тэатры,
Палац культуры, стадыён.
Часцей бываць нам толькі варта
У гэтых храмах з першых дзён...

Вакол нас храмаў дастаткова,
Ды не назваў я аднаго -
Бо божае патрэбна слова,
Таму, хто верыць у яго.

Я ж мару толькі, каб на свеце
Сады цвілі і колас рос,
І каб жылі з усмешкай дзеці
І не глыталі горкіх слёз.

Каб чалавек любіў прыроду,
Дастойна нёс свае імя.
Каб людзі ўсе прыйшлі да згоды -
І храмам стане ўся зямля.

## **Капыльская радзімая зямля**

Куток дзівосны гнёздаў салаўіных -
Капыльская радзімая зямля.
Нідзе няма другой такой мясціны,
Дзе б адпачыў душой і сэрцам я.

Іду знаёмай сцежкаю лясною,
Смакую водар соснаў і бяроз…
Тваёй, мой край, любуюся красою,
Ад прыгажосці радасна да слёз.

Тут не адзін паэт расправіў крылы,
Тут юнакі прымалі Лаўскі бой,
Наш бацька Нёман людзям дорыць сілы,
Капыльская града нясе спакой.

Майго натхнення стала ты крыніцай,
І, дзе б ні быў, к табе вярнуся я…
Заўжды табой я буду ганарыцца,
Капыльская радзімая зямля.

Капыльская зямля, капыльская зямля,
Ты ружа беларускага вянка.
Няхай гучыць заўжды, чароўная твая,
У небе чыстым песня жаўрука!

## Малінаўкі цяпло
## (Адаму Русаку)

Адам Русак - славуты наш зямляк,
Тваіх радкоў смакуем мы нектар…
Ты - мовы роднай валадар-мастак,
Вялікі дзякуй за вялікі дар!

* * *

У вёсцы, дзе бярэ пачатак бацька Нёман,
Калісьці жыў паэт - яго любіў народ.
Ён шмат дзе пабываў, але заўсёды помніў
Капыльшчыну-радзіму, Малінаўкі цяпло.

Малінаўка зімой заўсёды сагравала,
Малінаўка вясной у квецені была.

Цябе яна ўлетку на пасецы чакала,
Увосень з бульбы дранікі пякла.

Ты назіраў буслоў, што зноў кружылі ў небе,
І пра каханне ты не мог не напісаць…
З дзядамі ты любіў пагаварыць аб хлебе,
Са сведкамі вайны вайну паўспамінаць.

Радзіму бачыў ты дзяўчынай маладою,
Матулі роднай вобраз рыфмай ажывіў…
У доўгі шлях жыцця ты ліру ўзяў з сабою,
Свой талент песняра для нас усіх раскрыў.

Ад сэрца вершы йшлі, як мёд, ліліся песні
Да той пары, пакуль цякла па жылах кроў…
У памяці людской навек ты застанешся!
Зямны паклон табе ад нас, тваіх сяброў!..

## Мне выпала шчасце тут нарадзіцца

Мне выпала шчасце тут нарадзіцца,
Дзе Нёман-рака пачынае свой шлях,
Дзе далі лясныя, дзе хлеб каласіцца,
Дзе яблыкі спеюць у райскіх садах.

Мне выпала шчасце тут нарадзіцца,
Дзе Ёдка-Наркевіч сябе праявіў,
Дзе шмат ён зрабіў навуковых адкрыццяў,
У парках цяністых па сцежках хадзіў.

Мне выпала шчасце тут нарадзіцца,
Дзе вершы пісалі Астрэйка, Русак…
І сёння магу ад душы ганарыцца,
Што ведаў абоіх, што я - іх зямляк.

Мне выпала шчасце тут нарадзіцца,
Дзе хлопцы фашыстам далі Лаўскі бой,

Хоць ім давялося тады парадніцца
Навекі з гарэтнаю роднай зямлёй.

Мне выпала шчасце тут нарадзіцца,
Дзе слёзы і кроў - нам усім напамін,
Што не павінна ніяк паўтарыцца
Ні доля Рулёва, ні наша Хатынь.

Мне выпала шчасце тут нарадзіцца,
Дзе шчыры жыве працавіты народ,
Дзе марам усім накановна збыцца,
А край прыгажэе наш з году у год…

Да сэрца Радзімы хачу прытуліцца:
Мне выпала шчасце тут  нарадзіцца!

**Гэта ўсё дзяцінства**

Колькі зор на небе і ў лузе кветак,
Першыя сцяжынкі і прыход вясны -
Гэта ўсё дзяцінства, гэта ўсё дзяцінства,
Нашага дзяцінства казачныя сны.

Бацькава шпакоўня, яблынька ў садзе,
Прыгажосць, пяшчота любых нам мясцін -
Гэта ўсё дзяцінства, гэта ўсё дзяцінства,
Нашага дзяцінства цёплы ўспамін.

Першыя ўрокі, першыя адзнакі,
Пошук інтарэсаў, гульні ў двары -
Гэта ўсё дзяцінства, гэта ўсё дзяцінства,
Нашага дзяцінства верныя сябры.

Новыя адкрыцці, кім, якімі станем,
Першае каханне, ночы ля кастра…
Вось ужо юнацтва, так прыйшла юнацтва,
Нашага юнацтва дзіўная пара.

Шчыры мір дзяцінства з намі застанецца,
І яго агеньчык свеціць нам праз век…
Хто збярог у сэрцы гэты час, паверце,
Сапраўды шчаслівы мудры чалавек.

***

*Кузьму Чорнаму*

Твой дзень нараджэння - агульнае свята,
Падзея ў культурным жыцці:
Ты змог нам усім стаць таварышам, братам,
Да кожнага сэрцам дайсці.

У радасны час і цяжкія хвіліны
Падтрымкай не раз нам было,
Што там начынаецца наша Радзіма,
Дзе наша дзяцінства прайшло.

Душа твая рвалася часта ў Боркі,
Дакладней, заўжды была там:
На родных і мілых Капыльскіх пагорках,
Дзе лес у Скіп'ёве, як храм.

Вадзічкі халоднай любіў ты напіцца,
Каб смагу і стому прагнаць,
З чароўнай Бушылаўскай чыстай крыніцы,
Каб зноўку пісаць і пісаць…

І парк Радзівілаўскі, дрэвы і хаты,
І Цімкаўскі шумны кірмаш
Палітрай аздобіў сваёй ты багатай,
Як наш беларускі пейзаж…

Ты - знаўца глыбокай людское натуры,
Ты - роднай зямлі патрыёт,
Сапраўдная глыба ў літаратуры!
Таму цябе помніць народ!

***

*Славутаму земляку*

Ты славіш творчасцю сваёй
Капыльшчыны цудоўныя мясціны.
І сёння ганарымся мы табой,
Радзімы нашай верным сынам.

Не толькі ў Беларусі, за мяжой
Чытаюць людзі твае творы,
Дзе наш зямляк - галоўны іх герой,
Пейзаж - капыльскія прасторы.

Жыццёвай мудрасцю напоўнены радкі
Тваіх апавяданняў і раманаў…
Нямнога ёсць пісьменнікаў тваіх,
Як ты - з прыгожым творчым тварам.

Твой талент гартавала барацьба,
Турэмныя засценкі і каханне:
І як прысуд нябеснага суда -
Тваё ўсенароднае прызнанне.

Цяплом сагрэта пад тваім крылом
Святая сувязь розных пакаленняў,
І ўсходы вельмі добрыя дало
Табой калісьці кінутае зерне.

Кароткі, яркі свой жыццёвы шлях
Прайшоў ты так, як раіў нам Астроўскі -
У першых ты заўсёды быў радах
І першым з нас, Мікола Раманоўскі.

У памяці нашчадкаў назаўжды
Твой блізкі светлы вобраз застаецца:
Для нас усіх ты - сімвал дабраты
І чалавек з вялікім сэрцам.



*Малевіч Ядвіга Генрыхаўна. Нарадзілася ў 1950 годзе ў в. Рубанікі на Мядзельшчыне. Закончыла школу, медвучылішча. Працавала фельчарам на Дзяржынскім фельчарска-акушэрскім пункце, зараз пенсіянерка.*

## Ядвіга Малевіч

*Прысвячаю паэту Анатолю Астрэйка*
*з нагоды 110-годдзя з дня нараджэння*

Вандрую па паэзіі Анатоля Астрэйкі -
Даступныя ўсім неўміручыя твораў радкі.
Старонкі напоўнены мёдам лірычнай палітры,
Празрыстай і вольнай, як тыя вятры.

Выток узяўшы з Наднямоння
(З Пясочнага зарой узышоў),
Сваю сыноўнюю любоў
Данёс ў вершах нам да сёння.

Данёс праз цяжкасці, пакуты
Усіх трывожных дзён вайны.
Умеў ён рваць любыя путы
Сваёю праўдай - без маны.

У радках паэзіі і зладжанасць, і мужнасць,
Узнёслы стыль і шчырыя пачуцці.

Пясняр усхваляў уздым працоўны, мудрасць…
Яны яго ўвянчалі пры жыцці.

Абдымны ў людской удзячнасці
За скарб, пакінуты Айчыне:
За творчую ліру паэта-сына,
Каваля свайго паэтычнага багацця.

Паэта вершы полымем поўныя.
Радкі паэтычнаю праўдай напоўнены.
Ён славіў Айчыну, малую радзіму -
К чаму прыкіпеў сваім сэрцам адзіным.
*(12.03.2021)*

**Прысвячэнне роднай краіне**

Краіна мая, край Беларусі,
Я - пясчынка твая, і ганаруся.
Без цябе я не бачу свайго існавання.
Беларусь, ты - маё наканаванне.

Ты ў вяночку бяроз белакрылых,
Міласэрная, прыгожая, мілая.
Ты ў брыльянтах азёр, срэбры рэк,
Што ў песнях спявае чалавек.

Ты яшчэ маладая і слабая,
Але сілы знайдзі ў сабе,
Каб вякамі за межамі славілі,
Бралі прыклад вякамі з цябе.

Краіна мая, край Беларусі,
Я - пясчынка твая, і ганаруся.
Без цябе я не бачу свайго існавання.
Беларусь, ты - маё наканаванне.

* * *

Чалавек даўгавечны памяццю
Родных, знаёмых сваіх.
Ды мільгаюць гады, і злой "замяццю"
Замятаецца вобраз, узнікшы на міг.
Калі ж мяне Бог прыме ў сад Раю,
Упэўнена я, што сваіх пазнаю.

**Зямля бацькоў**

Зямля бацькоў!
З табой у думках
Не развітваюся ніколі.
К табе, як дамоў,
Вяртаюся я ў душэўным болі.
Тут лечаць сэрца і лес, і поле,
Тут радасці і самоце хапае волі.

Тут кожная мясціна мне знаёма,
Тут кожны куст са мной
Вітаецца, як свой,
Хоць вырас без мяне, вядома.

І белы бэз, пасаджаны мамай,
І слівы, татам высаджаныя разам,
Усё для мяне - пары далёкай май,
Дае што ўцеху маім сталым гадам.

* * *

Сляза няпрошаная на акне…
Чыя? Чаму? У чым прычына?
Я абмануць сябе наіўна
Тут не магу - не міла абмануцца мне,

Што плача студзень - узрост таму прычына,
І што яго жыццё ўжо на заходзе дзён,

Што клімату гарэўшая лучына
Патрывожыла зімовы сон.

Што патрывожыла хаду зімы
Падзабытай і такой доўгачаканай.
Снежань, студзень… радуемся мы,
Яна гучыць нам музыкай нязнанай:

Завеямі, намётамі і халадамі,
Ёй характэрнымі, і толькі ёй адной.
Што здарылася з стойкаю зімой -
Не выразіць ні словам, ні слязамі.

*(2020)*

## Асенні лес

Адкрычаў, адплакаў - адбалела.
Пад шум скідаючы адзенне,
Ты выстаяў. Ад галышні падзення
Не адбылося, і душа ў табе не стлела.
Стаіш ты горда. Трапяткія пальцы
Кожнай галінкі музыку спаўняюць.
І лістапада воблакі люляюць,
Што над зямлёю стомленай плывуць.

* * *

Бабіна лета пацалункам ужо з раніцы
Адорвае прастору і яе жыхароў.
Верасня канец, і мець такія шанцы
Прыемна ў выглядзе дароў.

Блуднаму наперакор марозу
Да сонца цягнуць рукі хрызантэмы,
Вішня вастравокая, не баючыся сімбіёзу,
Сентэментальную агучывае тэму.

Сінічкі дзве стралою паўз вакна
У сваім палётным тэмпе прамільгнулі,
А гэта значыла - я не адна
Бацькоўскі дотык восені адчула.

* * *

Ты аб'яўляеш мне "вайну".
Дазволь з табой не пагадзіцца!..
Ужо языку твайму не спіцца,
І ты аб'яўляеш мне вайну.

Я выстаўляю белы сцяг,
Што азначае: "Я здаюся".
Я выстаўляю белы сцяг,
Падумаўшы, што так аберагуся.

О, ты прыкметна хваляваўся.
Вуснаў замок так і не раскрыўся,
Аб ультыматуме забыўся,
А над намі сцяг усё развіваўся.

Над намі сцяг усё развіваўся,
Ды ні палону не было, ні здачы -
Рашылі мірна ўсе задачы,
А сцяг усё белы развіваўся.

* * *

Яркі і агністы - загарэлы
Цвіў кастрычнік - восеньскае лета.
Бабіны дні, як птушак трэлі,
Клікалі: “Пішы пра нас санеты!”

Я лавіла кожнае імгненне:
Дзён яго асобую красу
У палітру фарбаў, як насенне
Святло сонейка рассейвала расу.

А ў расе святла квітнелі кветкі:
Хрызантэмы, пышныя вяргіні.
Падарунак атрымаўшы гэткі,
Прылівы сілы адчувала ў кожным дні.

Лісце сліў дыван свой ткалі днямі
І выслалі для ног маіх сцяжынку.
Мне ж шкада яе таптаць нагамі -
Светлую прыродную пушынку.

А кастрычнік яркі, загарэлы
Цвіў прывабным, бабскім летам.
У радасці гучалі ў сэрцы трэлі -
Радасцю жыцця ў царстве гэтым.

## Вясковым удовам вайны

Спавітыя старасці павуцінай,
Спыніўшай іх руплівы бег,
Удовыя, старэнькія жанчыны
У адзіноце дажываюць век.

Няма ўжо бляску ў сіняве вачэй. -
Адцвілі, як васілёчкі ў жыце.
Толькі твару ўсмешка скажа, што яшчэ
Ў іх не патух агеньчык жыцця.

Даверліва, нібы дачцэ,
Якую ў люльцы калыхалі,
Раскажуць усё, прыпомніўшы яшчэ
Дзяцінства басаногае, вайну-навалу.

Я споведзь слухаю, гляджу ў іх вочы-васількі,
І паўстаюць карціны з небыцця.
Які ў жанчын усё ж лёс цяжкі…
Няхай не гасне ў Вас агонь жыцця!

## Спаса-Узнясенская царква

Птушкаю ўзнялася над райцэнтрам
Спаса-Узнясенская царква,
І крыжом сваім здалёк, як сэрцам,
Запрашае ўсіх да алтара.

Безграхоўных, каб па сваіх родных
Не забылі свечку запаліць.
Хай зямелька сцеражэ іх мошчы,
А душа над свечкаю парыць.

Запрашае грэшных прыкланіцца
Перад Богам - ён грахі здымае
Толькі тым, хто прыйдзе павініцца,
Даўшы клятву:
- Не грашыць! -
Стрымае.

Усіх вядзе хоць раз да Бога сцежка,
Каб адчуць палёгку на душы,
У сцены царквы Спаса-Узнясенскай,
Дзе мір і Бог у велічнай цішы.

## Спаленым ахвярам в. Дусаеўшчына

Ноч. Туман над сялом,
Каму ён спрыяе?
Сну чуткаму, другі год ідзе што на злом?
Ці смерці, што балі над краем спраўляе?

Смерці, што выпусціў фрыц з яе бярлоззя.
З хат для чагосьці ўжо людзей выганяе.
- Налева, направа! Стаяць у смірнай позе!
- А дзеці пры чым тут, ваўчыная зграя!?

Смерць па спіску ўпівалася ў партызанскія сем'і,
Бо хтосьці з лясных "умярцвіў немчура".

- Сатру ў пакаранне ўсіх я з зямлі!
Майго парадку прыйшла тут пара!

У хату драўляную аўтаматамі, палкамі
Штурхала бязвольных, адчуўшых бяду.
- Няхай згараюць усе тут агаркамі!
(Кошт фрыца ацэнены быў на хаду).

Гарэлі жанчыны, старыя і дзеці…
Каналі ў муках, бо гарэлі жыўём!
Назаўтра, ужо попелам, у труне-канверце
Ахвяр прытуліў святой вечнасці дом.

**Журба**

Расцвітаў нявінны светлы ранак,
Падбірала крылейкі смуга,
На мяжу, Айчыны маёй ганак,
Ужо ступала ворага нага.

На краі жыцця ў крыві бардовай
Стогне крэпасць Брэсцкая ад ран,
Не згінаўся беларус падковай -
Не паддаваўся на чужы абман.

Кожны трэці… у журбе адвечнай
Спяць магілы - сёстры той бяды.
Яны сведкі ганьбы чалавечай -
Войнаў, што не зніклі праз гады.

**У раённай бібліятэцы імя Анатоля Астрэйкі**

На кніжных стэлажах бібліятэкі -
На усіх паверхах ушыркі, у вышыню
Жывуць літаратараў творы. І дзень ка дню
Поўняцца навінкамі тут картатэкі.

Выданні розныя па ўзросце,
Па знешнім выглядзе і росце
У іх душы вытканы са слоў:
Выспелыя тварэнні мысляроў

Як рады прыходу сваіх чытачоў
Даўно знаёмых і новых сяброў!
І, заўжды так бывае, ужо з першай старонкі
Яны завядуць між сабою гамонку.

Ім хочацца шчыра душою раскрыцца
Аўтараў вершаў, раманаў, паэм…
Ім хочацца шчодра дзяліцца
Навінамі ўсіх шматгранных тэм,

Дзе радасць у журбу ўпляцецца,
І дзён святло - у цьму начэй.
Вясны дыханне данясецца
З расчыненых зімой дзвярэй.

Дзе словаў маладосць і сталасць
Між векавых гадоў у нетрах не знікае.
Дзе творцаў велічнасць і маласць
З запалам на жыццё натхняе.

*(22.03.2021)*

## Лясны музей.

Спяшаюся ў лес, як у музей
Убачыць карціны мастачкі-прыроды
Без рамачных акоў. З гэтай нагоды
Лясны музей - без вокан і дзвярэй.

Карціны не вісяць, а ўсе стаяць
Варушацца, мяняючы позы, а не месца.
Адны ў знак павагі прыстойна маўчаць,
Другія гамоняць, аж рэха нясецца.

Іх колер мяняецца кожны сезон
Залежнасць ад года пары - увесь рэзон,
І тым цікавей і загадкавей тым
Таемнасць карцін у музеі лясным.

*Пісьменніку і паэту, грамадскаму дзеячу*
*Цішку Гартнаму*
*(Зміцеру Хведаравічу Жылуновічу)*
*1.10.1887 - 11.05.1937*

Сын парабка, рабочы-гарбар
Шукаў шчаслівую зару.
Сярод нягод гадоў яе пабачыў твар.
Агонь юначы даваў ход пяру.

Пясняр шукаў народу шчасце,
Якое бачыў ён па-свойму.
Аб ім праз твораў сваіх плойму
Вяшчаў паўсюль: на плошчы, у хаце.

Аб светлай зары - Айчыны нараджэнні -
Абвясціў у першы дзень,
у дзевятнаццаты год,
Дала Капыльшчына сыну свайму даручэнне:
- Дарогаю вольнай вядзі наш народ!

І зарасло мінулае быллём
"Засталіся толькі ўспаміны,
Новым дням мы правім акцябрыны,
Новым дням вітанні ў песнях шлём."

***Ад аўтара:*** *апошнія тры радкі верша - словы Ц. Гартнага, які марыў аб волі, дабрабыце Айчыны.*



*Мінчэня Тамара Максімаўна нарадзілася 6.02.1952 года ў г. Лідзе Гарадзенскай вобласці. У Капылі пражывала з 1957 года. Вучылася ў СШ №2, затым ў Магілёўскім мед. вучылішчы. Працавала ў цэнтральнай раённай аптэцы г. Капыля фармацэўтам.*

## Тамара Мінчэня

### Майму гораду

Люблю, Капыль, твае пагоркі,
Блакіт азёрнай цішыні,
Цымбалаў спеў вясёлы, звонкі
І веліч Замкавай гары.

Тут курганы, нібы асілкі,
Што паляглі за родны край -
Сваю зямлю ўзялі ў абдымкі
За курганамі ж - ціхі гай.

Табе ўжо больш за сем стагоддзяў,
А ты ўсяроўна малады.
Твая душа жыве ў народзе -
Не ў сіле над табой гады.

Я чую, чую гул стагоддзяў
Звіняць, звіняць твае званы,
Ідуць у бой за край, свабоду
Твае, Капыль, твае сыны.

Ты ваяваў, гарэў і зноўку,
Як птушка-Фенікс паўставаў.
І пра цябе - сваю старонку
Пясняр Капыльшчыны спяваў.

Ён - Цішка Гартны (Жылуновіч) -
Паэт, дзяржаўны дзеяч быў,
Ён першы Урад Рэспублікі ўзначаліў
І Беларусь Дзяржавай абвясціў.

Капыль, ты ганарышся славай
Сваіх сыноў, сваіх дачок.
Пяюць палі твае, дубравы
Аб трактарыстцы - аб Рачок.

Ніколі не забыць герояў
Працоўнай славы, баявой -
Ні Трыгубовіч, ні Букатай,
Сыноў, прыняўшых Лаўскі бой.

І сёння скарб твой - гэта людзі.
Твае здабыткі - праца рук,
Няхай шчаслівым лёс іх будзе -
Не згасне твой жыццёвы рух.

Капыль мой! Музыка стагоддзяў,
Ты ў песнях "Спадчыны" жывеш.
І голасам чароўнай дудкі
Ад Еўдакімава пяеш.

А колькі конікаў і кветак -
Сяброў усіх дзіцячых мар -

З саломкі, сонейкам сагрэтай,
Стварыла Ніна Шараварl!

І хай бягуць, імчаць стагоддзі,
Ляцяць хай над табой гады.
Жыві, Капыль, жыві ў народзе,
Красуйся вечны малады!

## Родны край

Родны край - край чароўных крыніц,
Родны край - водар спелых суніц,
Родны край - край шумлівых бяроз.
Родны край - дзе радзіўся і рос.
Родны край! Над табою ляцяць журавы,
Родны край! Белавежы напеў векавы.
Родны край, жытнім коласам
нізка табе пакланюся -
Маёй любай радзіме, маёй Беларусі.

## Купалле

Падаюць зоркі ў духмяныя росы
Месяц бы човен на сіняй рацэ,
Ветрык мілуе дзявочыя косы,
Позірк. Лілея у тонкай руцэ.

Вочы - дзве зоркі, што ўпалі з нябёсаў
Вусны пялёсткаў ружовых ярчэй
І ад паставы да ножак і косаў -
Не адвясці ад красуні вачэй.

Толькі слязой затуманіла вочы:
- Дзе ты мой любы, каханы мой - дзе?
З белых лілеяў спляла я вяночак,
Ты адгукніся. Ды вось ён! Ідзе!

Гоман і смех ля ракі да заранак.
Ціхі ўсплёск - і вянок на вадзе,
Ночку Купальскую, ясны світанак
Сцежкаю роснай пяшчотна вядзе.

**Вера**

Калі запытаеш, ці веру я ў БОГА,
Адказ будзе шчыры, ні кроплі хлусні,
Веру, а ў веры абліччаў так многа…
Услухайся толькі, навокал зірні.

Я веру ў жыццё, у празрыстае ранне,
У шчэбет птушыны і сонечны дзень,
Веру, я веру ў радасць кахання,
Яно ў жыцці, нібы сонца прамень.

Першыя крокі, усмешка дзіцяці…
Радасць і смутак у веры маёй.
Вера - яна як пяшчота ад маці,
Маці-матулі маёй і тваёй.

Светлая вера, надзея і шчырасць -
Яны ў маім сэрцы поўным трывог.
І дорыць жыццё найвялікшую міласць
ЛАСКАВЫ ОЙЧА! ВЕЛІЧНЫ БОГ!



*Мотуз Любоў Рыгораўна. Нарадзілася 3.12.1937 года ў г. Мазыр. Працавала прадаўцом магазіна "Кнігі", адказвала за аддзел паэзіі, дзіцячай літаратуры і музыкі.*

*Зараз на пенсіі.*

## Любоў Мотуз

### Канікулы

Певень гучна кукарэкнуў.
Прачнулася… Рада …
Басанож бягу сцяжынкай
Бабчынага саду.
Квецень красак так лагодна
Землю засцілае.
Беларускі гімн нясецца,
Радыё спявае.
У руцэ трымаю кубак,
Каб сабраць маліны,
Бо з Масквы сягоння ранкам
Едзе к нам Марына.

Мы стрыечныя сястрычкі
І рашылі гэтак,
Што мы ў вёсачцы Заветы
Правядзём усё лета.
Наша любая бабуля
Цешыцца надоем,
Частаваць нас будзе ранкам
Цёплым сырадоем.
Тут нас вабяць лес і поле,
Рэчка, сенажаці…
Беларусь, мая Радзіма,
Яна для нас, як маці.

*(1987)*

**Размова**

- Захварэў наш пакупнік…
- Чым, скажы?
- Грашыма:
Бачыў у краме каўбасу
З'еў не ртом, вачыма.
*(1994)*

**На кірмашы**

Прадаецца з лёгкім хрустам
Лапушыстая капуста.
І чакаюць вас да змору
Тут фасоля, памідоры,
Морква, бульба, буракі,
Яблыкі ды агуркі,
Дыні, кавуны, чарніцы…
Вы спяшайце не спазніцца.
Набывайце пра запас,
Каб зіма любіла вас.
*(1994)*

* * *

Пазваніла мне дачушка,
Мая любенькая птушка,
Жаўручок мой, салавейка,
Амялушак, канарэйка…
Галасок такі ў яе,
Нібы птучашка пяе,
… Мілагучныя,
ласкавыя ўсе словы
Нашай беларускай
роднай мовы!
*(2021)*

**Памяці Валянціна Мотуза, кіраўніка народнага аркестра народных інструментаў "Капыльскія дудары"**

*Эх! Скручу я дудку!*
*Такое зайграю,*
*Што ўсім будзе чутна*
*Ад краю да краю.*
***Францішак Багушэвіч.***

Браў ён тую дудку,
Яна грала чутка.
Вушы не, не драла,
Лагодна іграла.
Іграла вясёла,
Што ў Капылі, сёлах
Сустракалі шчыра -
Вось як гэта была.
Не браліся ў бокі
Не ішлі ў скокі
Толькі пляск далоней,
Як той грукат коней,
Як віхор у полі
Вырваўся на волю,
Над залай кружыўся,
Доўга не лажыўся
У зацішак залы
У момант той бывалы.
Ведаеце, з золку
Мо, як тая пчолка,
Збіраў ён музыкаў
У аркестр вялікі.
Яму назва з той пары
"Капыльскія дудары".
І візітнай карткай

Стаў аркестр раёна,
Апроч Беларусі
Меў вялікі гонар.
У Геленджыку, Вільні
Шчыра прымалі,
У Кіеве прыгожым
Дудары ігралі.
Пры Чарнобыльскай бядзе
Грацъ прыйшлося той дудзе.
Ліквідатараў, відаць,
Трэба было падтрымаць.
Быў заўжды прычасны
Ён да вялікіх святаў
Стаў аркестр дудароў
Усесаюзным лаўрэатам.
І ў Паставах, што іграў,
Лаўрэата атрымаў…
Чаму змоўкла? Грай жа,
Усё ўспамінай жа…
Гады яго працы
Бліскавіцай у небе
Ззялі вельмі зорна -
А што яшчэ трэба?
21.03.21

* * *

Мы капыляне і людзі раёна
Вякамі адданыя гэтай зямлі,
Шчыра шануем усе перамогі
Прашчураў нашых з іх даўніны.

А даўніну забыць ніяк нельга -
Безліч у ёй гістарычных падзей.
Капыль руйнаваўся, не раз адраджаўся,
І ўсё гэта звязана з лёсам людзей.

На Міншчыне сёння, з'яднаныя працай,
Разам ствараем свой лёс мы заўжды.
Ззяй жа, Капыльшчына, зоркаю яснай
На Беларусі ў вольнай сям'і.



## Алена Астрыкава

**З аўтабіяграфіі**

*Я, Астрыкава Алена Мечыславаўна, нарадзілася 14 красавіка 1959 года ў вёсцы Думічы Капыльскага раёна ў сям'і рабочых. Маці працавала даглядчыцай цялят, бацька - інвалід Вялікай Айчыннай вайны 2-й групы. У сям'і выхоўвалася шасцёра дзяцей (усе дзяўчаты). Была самай малодшай з іх.*

*Працоўную дзейнасць пачала адразу пасля заканчэння Лясноўскай школы рабочай саўгаса "Лясное", пазней працавала піянерважатай Вошкатаўскай васьмігодкі. Пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Горкага працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Цімкавіцкай сярэдняй школы імя Кузьмы Чорнага. Зараз працую старшынёй Цімкавіцага сельвыканкама. Агульны стаж работы старшынёй - больш за 24 гады. Маю дваіх дарослых дзяцей.*

*Вельмі люблю жыццё з усімі яго праяўленнямі, не ўяўляю яго без той справы, якой займаюся большую палову працоўнай дзейнасці і магу гаварыць пра яе бясконца.*

*А яшчэ я пражыла ўсё свае жыццё на любай Капыльшчыне і вельмі ганаруся гэтым.*

### Роднай матулі

Мне не забыць твой вобраз мілы,
Пагляд тваіх задумлівых вачэй.
На ўсё ў цябе хапала сілы,

Сама ж не дасыпала ты начэй.
Маленькім нам спявала калыханку
І ад хвароб усякіх берагла.
Ўставала рана-спазаранку:
Паліла ў печы і аладкі нам пякла.
Пасля у школу нас ты адпраўляла,
Сама ж ішла на працу - у калгас.
Цяплом сваім усіх нас саграваала,
Хвіліну кожную ты думала пра нас.
Прасіла ў Бога ўсім ты нам здароўя
І шчасця каб Гасподзь падараваў,
Каб доляй адарыў усіх пароўну
І гора каб з нас кожны не спазнаў.
Ніколі крыўды ты на нас не мела,
Хоць крыўдзілі цябе не раз.
У цяжкі час сабою засланяла,
І сэрца ты магла аддаць за нас.
А мы таго не заўважалі,
Што галаву тваю збяліла сівізна,
Маршчынкі твар твой пакрывалі,
Ад працы прысагнулася спіна.
Як хочацца абняць цябе за плечы,
Адчуць цяпло тваіх пяшчотных рук,
Убачыць постаць мілую ля печы,
Усмешку у кутках прыгожых губ.
Пачуць бы голас твой ласкавы
І ў памяці твой вобраз захаваць.
Адклаўшы ўбок усе свае турботы
Да сэрцы прытуліць і хоць разок яшчэ абняць…
Даруй мяне, мая любімая,
За тое, што цябе не зберагла.
У цяжкую хвіліну ракавую
Дапамагчы табе я не змагла.
Звяртаюся да ўсіх дзяцей на свеце:
Прашу, каб бераглі сваіх матуль,
Пакуль жывуць яны… Паверце:
Ніхто з іх не вярнуўся к нам адтуль.

## У адной цябе прашу я прабачэння

За ўсё прашу ў цябе я прабачэння,
Матуля родная мая.
За тое, што не меў паразумення,
Што жыў заўжды сваім жыццём я.

Кажу табе я "дзякуй", мая родная,
За ночы, што са мной ты правяла,
За калыханку, што спявала над калыскаю,
Пяшчоту і любоў, што мне ты аддала.

За твае рукі, з мазалямі, працавітыя,
За кожную маршчынку і слязу.
І за жыццё, турботай апавітае,
Табе, матуля, "дзякуй" гавару.

За тое, што жыццё ты мне падаравала,
Кажу табе, як верны сын:
Усю сябе ты людзям аддавала
Нічога не прасіўшы наўзамен.

У адной цябе прашу я сёння прабачэння
За ростань доўгую маю.
Цябе люблю, табой жыву я
І вобраз твой у сэрцы берагу.

## Вяртанне

Праз 30 год вяртаюся дахаты
Сцяжынкай вузкай між бяроз.
Дзе дуб стаяў стары, кашлаты,
Дзе нарадзіўся я і ўзрос.

Тут сонца свеціць неяк па-асобаму,
Тут салаўіны спеў кранае аж да слёз,
Да болю мне ўсё тут знаёмае:
І кожны дом, і рэчка, луг і лес.

Дзяцінства тут маё прайшло шчаслівае,
Кранае сэрцйа, цешыць успамін:
Матулі голас, сэрца клапатлівае,
І слова бацькі вострае, як клін.

Мінаю лес, усходжу на пагорак,
А сэрца б'ецца ўсё мацней.
Здаецца, гэта ўсё было шчэ ўчора…
Матулін голас чую я ізноў.

Ды што ж такое сталася з радзімаю?
Не пазнаю сваіх мясцін.
Сябе я цешу думкаю адзінаю,
Што можа гэта толькі плынь.

Заместа хат ўбачыў я разваліны:
Дзе дах упаў, дзе вокан не відно.
Там-сям стаяць адны агарыны,
І ўсё быллём навокал парасло.

І ногі паняслі мяне маланкаю
Туды, дзе басаногім я хадзіў.
Хацелася пабачыць тату з мамкаю,
Куст бэзавы, што калісь пасадзіў.

Але, нажаль, не здзейсніліся мары,,,
Ніхто на вуліцы мяне не стрэў,
Не расчыніў мне шчыра дзверы
І, як раней, сынок, не запрасіў.

Хацелася крычаць ад болю,
Ад роспачы, ад крыўды на сябе,
Што не вярнуць былога мне ўжо болей
І не паправіць тое, што было.

Хацелася мне ўпасці на калені
І цалаваць зялёную траву,
І выпрасіць у неба прабачэння
За ростань доўгую маю.

Звяртаюся да вас, мае нашчадкі,
Прашу не забываць бацькоўскі дом.
А сцежкі родныя дахаты
Не зарасталі каб быллём.

## Гімн роднай зямлі

Цімкаўская родная зямля!
Край наш непаўторны і любімы!
Гімн табе пяю сягоння я,
Для мяне на свеце ты адзіны!

Многа давялося перажыць:
Спаленай была ты ажно тройчы.
Ўсё сумела зноўку аднавіць,
На ўсё ў цябе хапала сілы, моцы.

Звалася прадмесцем Марцінвіль,
Мела ты раскошныя палацы.
Галерэі, вежы на гатычны стыль
І касцёл, на роспісы багаты.

Мастак Бруздовіч сцены аздабляў:
Інтэр'ер касцёла быў адметны,
Гук аргана душу ўсім кранаў,
Дзверы расчыняў для ўсіх прыветна.

Сам Алелька месцам кіраваў,
Пасля Сапегі спраўна запраўлялі,
Радзівілы правілі табой,
Каларыт мястэчку надавалі.

Ладзіліся часта кірмашы,
Гандаль у мястэчку ішоў бойка.
Прыязджалі клецкія купцы,
Гандляры з Нясвіжа і са Слуцка.

Весялілі люд твой цыркачы,
Фокуснікі і вандроўныя артысты
На кірмашах заўзята гралі гусляры,
Музыкі захаплялі ўсіх чыста

Спадчына культурная твая
Не прайшла дарэмна і бясследна:
Тэатр народны, хор, аркестр пасля
Створаны быў Зінай Раманенка.

Знакамітых ты дала зямлі людзей:
Чорнага - вядомага Сусвету.
У музей літаратурны твой
Едуць госці праўна аж дагэтуль.

Помнікі ж гісторыі твае,
Што дайшлі да нашых пакаленняў,
Наш абавязак: захаваць усё,
І перадаць нашчадкам без сумнення.

**Радзіма**

Мой любы край, мая радзіма,
Такая ў свеце ты адна.
Люблю цябе любоўю сына,
З табой дзялю я ўсё спаўна.

Люблю палі твае і пожні,
Спеў салавейкі ў гушчары,
Лясы і рэкі, луг мурожны,
Дзявочы спеў
і гоман дзетвары.

Люблю, як каласіцца ніва,
Цвітуць рамонкі за сялом.
Люблю, як вечарам так міла
Вядуць бяседу за сталом.

Люблю цябе зімой і летам,
Вясной і восеньскай парой.
І не магу маўчаць аб гэтым,
Калі ў разлуцы я з табой.

Душой і сэрцам я аддадзены
Табе, мой родны, дзіўны кут.
І дзе б ні быў, і дзе б ні жыў я,
Заўсёды сэрцам і душою тут.



## Уладзімір Пасюкевіч

*Пасюкевіч Уладзімір Маркавіч нарадзіўся ў 1931 годзе ў Капылі. У 1949 годзе паступіў у Мінскае мастацкае вучыліўча, якое скончыў на выдатна, а затым працягваў вучобу ў Маскоўскім дзяржаўным інстытуце імя В.І. Сурыкава.*

*У 1963 годзе быў прыняты ў Саюз мастакоў БССР. Дыяпазон творчасці Уладзіміра Маркавіча надзвычай шырокі. Вялікае месца ў творчасці мастака займае пейзаж. Правёўшы дзіцячыя і юнацкія гады ў маляўнічых мясцінах гарадка, ён назаўсёды захаваў у сваім сэрцы любоў да жывой прыроды. Прыкладам можа паслужыць адна з лепшых работ мастака "Родныя пагоркі" (1973).*

*Карціны і партрэты У.М. Пасюкевіча неаднойчы экспанаваліся на Усесаюзных і рэспубліканскіх выставах. Ілюстрацыі з іх часта змяшчаліся ў часопісах "Беларусь", "Маладосць" і іншых.*

*Асобную старонку ў творчасці мастака займае яго родная Капыльшчына. Напісаныя У.М. Пасюкевічам партрэты былі неаднаразова адзначаны Саюзам мастакоў, як значныя і непаўторныя менавіта праз характар сваіх герояў. Сярод работ "Партрэт маці" (1977), "Бабка Насця" (1979), партрэты настаўнікаў К.І. Мамчыца (1978) і З. Галубоўскай (1981) і іншыя.*

*Карціны "Капыль будуецца" (1979 г.), "Родныя пагоркі" (1973 г.), "Капыльскае возера" прысвечаны родным мясцінам, а назвы гавораць самі за сябе.*

*Крыху больш чым за 40 гадоў сваёй творчасці ён стварыў больш за 200 кар-*

*цін розных жанраў. У 1986 годзе за вялікі ўклад у педагагічную дзейнасць і развіццё мастацтва Уладзімір Пасюкевіч узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны".*

*Вершы пачаў пісаць ўжо ў сталым узросце…. З канца 90-х гадоў актыўны ўдзельнік літаратурнага аб'яднання "Вясёлка".*

*Памёр 15 траўня 2009 года.*

**Песня - кліч**

Люблю пагоркі я з маленства
І мой Капыль - выток Радзімы.
Яны як памятная песня,
Пра той цудоўны час шчаслівы.

Надзеяй, будучым і марай
Мне зноў гучаць былыя годы.
Не будзе шлях пакрыты хмарай,
Жыве мой юны дух свабоды.

Не аслабеюць волі крылы,
Капыль заззяе ў сэрцы зоркай.
Мая надзея ўздыме сілы,
Размахам думкі ўзнёслай, звонкай.

І душу хваляй ахапіла.
Хачу я песню стварыць гімнам,
Каб маладосць мне век свяціла,
Пакуль жыву жыццём парыўным.

Я чую - маладосць са мною,
І льецца спеў мне салаўіны,
Надзеі шлях заззяў зарою,
Як песня-кліч маёй Радзімы.

## Радзімая зямля

Мая душа трапеча ў хвалях буйных,
Калі імчуся ў вечны мой Капыль.
І б'ецца шчасцем сэрца ў рытмах бурных,
І расцвітае песенная быль.

І свеціць дзесь Тварэц нябесным вокам
Мне свет разліўся зоркавы ў грудзях.
З душы пачуцці льюцца мне вытокам.
І маладосць, як крылы на плячах.

Скарэй імчы, ляці мой дух крылаты
Ў чароўны край, дзе казачны абшар.
Красуе там, звініць, жыццём узняты
Ў палях багатых хлебам - Божы дар.

Мае пачуцці ўспыхваюць віхурай,
Душа бурліць, як вадаспадны гром.
Абняць хачу сваёй душэўнай бурай
Маю Айчыну - мой любімы дом.

І сэрца мкнецца радасным палётам,
Ужо Капыль мне свеціцца здаля.
Адзін шчэ крок, за мілым паваротам:
- Паклон табе, радзімая зямля.

*(9 лістапада 2000 г.)*

* * *

На гарах адвечных, духам старажытных,
Сівізной пакрытых з глыбіні вякоў.
Размахнуўся ўшыркі шлях твой самабытны
Клічам нашых продкаў, дзедаў і бацькоў.

Ты прайшоў нягоды, горкія часіны
Гераічным лёсам свой суровы шлях.

Пра цябе, як песні, нам гучаць быліны,
Гістарычны, слаўны, грозны твой размах.

Ты стаіш магутна-ўзнёслы над далінай
І глядзіш удалеч, як жыцця баец.
І раскрыў ты крылы, горды дух арліны,
Каб пад небам новым свой стварыць вянец.

Каб жылі мы ў шчасці, на зямлі радзімай,
Каб не бачыць громаў, чорных хмараў сны.
Каб Капыль, наш горад, сілай стаў магчымай
І грымеў шчаслівай вечнасцю вясны.
*(23 лютага 2002 г.)*

**Памяці Ц. Гартнага**

На ўлонні прыроды,
Як рыцар свабоды,
Стаіць на пагорках
Капыль з даўніны.

Пад шляхам жыў Млечным,
У квецені вечнай,
І бліснуў тут зоркай
Прамень залаты.

Ён вырас, змагаўся,
Ў жыцці гартаваўся,
І музай вядомы
Стаў Гартны паэт.

Быў дзеяч дзяржаўны,
Пісьменнік наш слаўны,
Як мудры вучоны
Нёс ведаў святло.

І ў злобе клікушы,
Мярзотныя душы,
А час быў трагічны,
Стварылі данос.

Шыпелі, як змеі
З газет ліхадзеі,
А бруд іх цынічны -
Яго страшны лёс.

Ён зноў нам адкрыўся,
Навек азарыўся
На плошчы Капыля,
Як вобраз святы.

Высокі лоб, вочы,
Дні ў мыслях і ночы,
А мудрасць свяціла,
Як песня зары.

## Сон

Сон дзівам паглыбіла ноч,
Як цемень зацішыла ход,
Мяне крутанула наўзбоч,
Свяціўся заранкай усход.

Капыль бачны ў сне залатым.
Ён быццам сабраўся ў паход.
Як веліч на ўзгорку былым
Рыхтуе магутны адлёт.

Гатоў ён падняцца ў прастор,
Каб кветку жыцця ўкараніць.
Дзе зорных свяціл дзіўны хор,
Дзе шчасце з надзеяй бруіць.

А кветка, як песня расла,
Узрастала ў бязмежны прастор,
Пуцяводнаю зоркай вяла,
Адкрыла жыццю ясных зор.

Іх бляск шчасцем шлях акрапіў,
Надзея ўзрасла ясным днём,
Нам кветкай жыццё азарыў,
І край наш заззяў хараством.

## Начны дазор

Быў вечар ціхі, слаліся туманы,
Ўжо дзень пагас, заціхнуў бор.
Лажыўся змрок халодны на паляны,
А ў небе ўсплыў начны дазор.

І выглянуў з-за леса месяц зыркі,
А ўслед скрозь тысячу свяціл,
І цені ўкруг, як скрытныя абдымкі
Згусцілі ўжо зямны насціл.

Пільнуюць сон свяцілы вартавыя.
Як сведкі - стражы старызны.
Наш шар ляціць, дзе зоры залатыя -
Надзеяй свецяцца нам сны.
*(3 чэрвеня 2001 г.)*

**Раніца ў лесе**

Любімы лес.
Душа імчыцца зранку,
І зоркі познія гараць,
Апошні цень кідаюць на дзялянку,
Тут сцежкі мне былым іскраць.

Ужо світанак ноч зганяў на ўзлессі,
А бор у прыцемку драмаў,
І толькі шорах дзесьці чутны ў лесе,
Як дзень між лісцяў пранікаў.

Свой шар свяціла к небу ўжо ўздымала
Наўкруг успыхнула зара,
І зараніца ярка запалала,
Вясны дзівосная пара.

І зварухнуўся ўзрыўным шчабятаннем
У гушчары птушыны хор.
Жыццёвым шчасцем, радасным світаннем
Прачнуўся ўвесь вясенні бор.

І птушкі ўголас радасна віталі
Над лесам сонца ўзняўся шар,
Чароўным спевам вечнасць услаўлялі:
- Жыве краса, прыроды дар.
*(25 сакавіка 2001 г.)*

* * *

Як водбліск з неба, зорка засвяціла,
Краса вачэй заззяла сінявой.
Нібы з нябёс Тварэц паслаў мне дзіва,
І шчасце свеціць зоркаю зямной.

З'явілася яна любоўнай сілай,
Красой нябеснай поўніцца душа,
І сэрца б'ецца радасцю руплівай,
І свет заззяў, як юная зара.

Прыціх мой шлях застылай адзіноты,
Стаміўшы думы, сэрца і нутро,
Агонь душу напоўніў без турботы,
Наўзбоч спагнаў ён немачнае зло.

І юным духам сэрца мне з цярпеннем
Адцягне час магільнай старызны.
Любоў зайграла жарсцю і натхненнем,
Я ўспомніў годы юнай даўніны.

*(7 жніўня 2001 г.)*

* * *

Душа ў пачуццях запалала
На схіле год маіх, як радасць.
І муза ў шчасці заспявала,
Прыйшла мне песняй закаханасць.

Цяпер я ў мілай чараўніцы,
Ў душы нам свецяцца пяшчоты,
На небе ранняй заранiцы
Пяюць нам музыкай красоты.

І мы ляцім па небасхіле,
К зары насустрач, казкай дзіўнай,

А сэрцу лёгкасць дае сілу,
Кіпіць у жарснасці парыўнай.

І чутны райскія напевы,
Як юнай знічкай мы заззялі,
Зліліся разам цуд і спевы,
Зарой яскравай запалалі.

І жыць бы нам у шчасці вечным,
Душэўнай музыцы адданых,
Каб зоркі ў небе шляхам Млечным
Заўжды свяцілі для каханых.

*(9 сакавіка 2000 г.)*

* * *

Зноў лячу к табе я ў госці
На былых яшчэ крылах,
Бо ў душы трымціць мне штосьці,
Як ў даўнішніх гадах.

Нібы сэрца замірае,
Б'ецца шчырым пачуццём.
Мне твой воблік усплывае,
Ззяе сонечным цяплом.

Не судзі мяне сурова,
Што я ў думках быў з табой.
Яснасць неба, сінь прастору
Не пакрыюцца імглой.

Бо ў грудзях душа-цяпліца,
Чарадзейны свет кастра.
Маладосцю мне іскрыцца,
Высь блакітнага шатра.

*(3 траўня 2000 г.)*

## Любоўны сон

Быль пакрыла
Дзівам сну,
Сном раскрыла
Свет - вясну.

Кветкай ззяюць
Дні вясны.
Нас страчаюць,
Двое - мы.

Зоркі - вочы,
Цуд красы.
Стан дзявочы,
Жар душы.

Мы ў любові,
У сэрцы спеў.
Рух вясновы
Ў нас кіпеў.

Злітны вусны,
Жар душы,
Сэрцы злучым
У шчасці мы.

Бурнай ласкай
Жыў наш сказ,
Дзіўнай казкай
Стаў для нас.

Зрухам ночы -
Ранні ўзрыў,
Стан дзявочы
Раптам сплыў.

* * *

Зноў месяц
шар свой раскрывае,
Таемны бляск
іскрыць кругом
Пад дрэвам пара маладая
Ў любові ўспыхнула агнём.
Пачуццем сэрцы іх злучалі,
К грудзям прытулена яна,
І душы вуснамі палалі,
Зліліся, як душа адна.

*(13 сакавіка 2000 г.)*

* * *

Святло мігціць, ужо світае
Раскрывае крылле ўсход,
Сцежкі ў небе расцілае
Заранцы даць узлёт.

Неба раптам засвяціла
Яркай кветкаю вясны
І вяночак свой раскрыла
Ў бляск нябесны, залаты.

Ўжо румяніць заранціа,
Бы дзяўчына ў юны час,
Шчасцем ззяе чараўніца -
Маладосці вечны сказ.

*(5 ліпеня 2001 г.)*



# Іван Пракарына

*Іван Іванавіч Пракарына нарадзіўся ў 1 снежня 1946 года ў вёсцы Аношкі Нясвіжскага раёна. Пасля заканчэння Казлоўскай СШ служыў у Савецкай Арміі. Тады ж у газеце Беларускай вайсковай акругі "Во славу Родины" апублікаваў першыя вершы.*

*У 1975 годзе скончыў Мінскую вышэйшую партыйную школу, пасля чаго звязаў свій лёс з капыльскай раённай газетай "Слава працы". Амаль дзесяць гадоў быў яе рэдактарам. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Беларускага саюза журналістаў. Друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Работніца і сялянка", у калектыўных зборніках паэзіі, у рэспубліканскіх газетах.*

*Памёр у 4 лістапада 2001 года.*

## Пазнанне

Жыццё вузлы нанізвае на памяць,
Турботамі засланы ўвесь прасцяг,
І нават старасць, поўнай меркі старасць
З нягодамі замыліцца ў вачах…
А ты ідзеш, і прабягаюць міма
Сустрэчнага пазнання астраўкі…
Паэзія без працы немагчыма,
Як немагчымы поціск без рукі.

## Ідзі, шукай сваю надзею…

Сумуе восень жоўтым лісцем
На ціхай ноце грыбасею.
Яе прыход за сэрца цісне,
Як тое дрэва, сам лысею.

У дрэва цыкл, другая крона,
Яна вясной адзенне знойдзе,
А гэта ляжа медным звонам,
Які з асеннім ветрам пойдзе.

Мяне ж пастарыць цэлым годам,
Якіх у нас не так багата…
Не давярай яе прыходу,
Шануй хвіліну, нібы свята.

Не паддавайся пуставею
І срэбным пасмам павуціння,
Ідзі шукай сваю надзею,
А можа стацца - знойдзеш імя.

## Знайдзі сябе

Жыву, мо проста, як здаецца.
Расту і мару аб сяўбе.
А сэрца просіць, просіць сэрца -
Знайдзі сябе, знайдзі сябе.

Сябе і голас свой шукаю
На нівах родных, блізкіх моў.
Ды не сябе я раскрываю,
А прыгыжосць і цуды слоў.

Яны маю нітуюць памяць,
Каб мог пазней палотны ткаць,
На шчасце людзям і на радасць
Іх шчодрай жменяй раздаваць.

## Споведзь

Хай праз гады, туманам светлым
Надзеяй ходзяць нашы ветры,
Не паддавайцеся самоце,
Тым больш - замшэлай адзіноце.
Хай маладое сонца руніць,
Ну, а душа прыгожа струніць
Мелодыю, што край спявае,
Не лістападам - кветкай мая.

## Заляцанне

Іх зорны час, асветлены спатканнем,
І салаўі пяюць на ўсе лады,
Святое непаўтонае каханне
Не, не ўпільнуе месяц малады.

І губы, нібы спелыя суніцы,
Употаі вядуць свой дыялог…
Як хочацца цяплом іх наталіцца,
Што пасылае сам усявышні Бог.

## Слова

Казлыча слова нашы нервы,
Бунтуе кроў і цешыць даль,
І вышывае ўзорам вешнім
Душы бялюсенькі паркаль.

Каб узышлі дабром зярняты,
Што ўмела кінуты ў душу…
У гэтым слова вінавата,
Што гаварыў і што скажу.

Яно гадуе самастойнасць,
І адкрывае думцы шлях,
Пераплаўляючы ў прыстойносць
Жыцця вялікага размах.

## Жанчыне

Жанчына - сонца на далоні,
Паветра шчасця і жыцця.
Ты марай плаваеш на ўлонні
Святых надзей і адкрыцця.

Пакой пільнуеш яснай зоркай,
Сям'ю ратуеш ад бяды,
І падымаешся на золку,
І плавіш лёд у халады.

Шчыміць душа, вакол бяздонне,
На вейках мірна дрэмле сон,
І апынаешся ў палоне
Даўно мінулых светлых дзён.

Кахання, шчырага кахання!
Няхай цвітуць твае сады!
Жанчына - крылы для змагання
І мудры лекар ад нуды.

Натхненнем свеціцца твой вобраз -
Ён вечны, як сама Зямля…
Зноў сакавік… І гучны голас
Хай дорыць свету неўмаля.

## У часе не спыняецца гадзіннік

Завялі дні, як на пагосце травы,
Што бездакорна верылі дажджу,
А Бог яму не даручыў управы -
Дарогу ў рай нягодамі машчу.

Ды з помстай развітаюся бясхмарна,
Таму ў мяне трыпутнік на душы,
Я не хачу сумленне траціць марна,
Хаця спакусы ставяць барышы.

Аздобай лета зарунела памяць,
А кожны крок, як грам жывой вады,
Бо немагчыма зорнае ахаяць
Разменным словам, што ідуць гады.

У часе не спыняецца гадзіннік,
І чалавек ужо на схіле дня,
Паспешліва, як Божы імяніннік,
Даконвае гаротнага каня…

Прайшоўшы шлях туманіцца здалёку
І срэбрам абдае былога ніці.
Я, як раса, без кропелькі аброку,
Што васільком губляецца ў жыце.

## Сон

Для цябе мае губы - расінка бяссонніцы
І няўцешнага сэрца буслiны палёт,
Цяжка мне адгадаць, а цяжэй апрытомніцца,
Дзе малінай кахання, вянчаўся прыход…

А пачуццяў каралі расспыпаны зоркамі,
Імі, згадкамі светлымі, Млечны вытканы шлях,
Трапяткое святло напаўняе знаходкамі
Летуценнага шчасця нябачны ачаг.

Паласне бліскавіца, і крыкам адчаю
Разарве цішыню непаседлівы гром,
Што прастудай зімы пакланяецца маю
І вясною спаткання вяртаецца ў дом.

Дык жыві пацалунак зямной асалоды,
Ты ж у храме душы - непрыкаены госць,
Ты, спрадвечны, заўсёды цураешся моды
І заўжды выступаеш такім, якім ёсць.



## Наталля Раеўская

*Раеўская Наталля нарадзілася ў горадзе Хойнікі Гомельскай вобласці, але ўжо больш за трыццаць гадоў жыве на Капыльшчыне. Пятнаццаць год працуе ў адукацыі.*

*Першыя спробы пяра пачаліся яшчэ ў школе з артыкулаў у мясцовую газету, а потым - і вершы ў студэнскія гады. Наіўныя дзявочыя вершы пра каханне і шчасце з часам змяніліся на радкі пра сэнс жыцця..*

*На сённяшні дзень Наталля працуе ў Капыльскім дзяржаўным каледжы і пражывае ў вёсцы Чырвоны Партызан.*

*Прырода і супакой падштурхнулі да напісання наступных вершаў.*

### Спадчына любаму сыну

О, мой родны сыночак, крывінка мая!
Як жылося табе ў тваіх снах?
Усё гляджу, не магу нацешыцца я
На чубок у тваіх валасах.

Ты гукаеш і часта ўсміхаешся ў сне,
Раскінуўшы ў ложку рукі.
Як жа хочацца заўсёды бязмежна мне,
Каб ты гора не ведаў і мукі.

Каб цябе абыйшлі і войны, і зло,
І страшныя катаклізмы веку.
Каб у жыцці тваім заўсёды светла было
І каб шчасціла табе без ліку!

Прамень сонца крануўся тваёй шчакі
І цалуе ружовыя губы.
Няхай будуць лёгкімі долі шляхі,
Каб ты гора не ведаў і згубы.

Каб у сэрцы тваім дабрыня жыла
І каханне, чысціня пялёсткаў.
Каб па жыцці цябе мудрасць вяла,
Што толькі праца - усяму аснова.

Я так хачу, каб у свеце не стала зла,
Зорка шчасця для ўсіх заззяла.
А ў руках тваіх, сынок, каб не зброя была,
А каб скрыпка ў іх гучала.

І каб вусны твае цалавала вясна
Прыгожая, юная, бянтэжная.
А лёс твой каб быў шчодры і ясны.
Так люблю я цябе - бязмежна!

## Казачны дзень

Я бачу і чую, як спускаецца снег на ялінках,
Як сцежку ў лесе вядзе траскучы мароз.
Як ціхі ручай заснуў у празрыстых ільдзінках,
І з поспехам заяц у полі завершвае крос.

Я бачу і чую, як дзяцел залечвае дрэва,
Як вавёрка пухнатая шмыгнула на ліпу ў дупло.
Павалена дрэва... Нібы з казкі хімера,
Як Баба-Яга над лесам ляціць з памялом.

Я бачу і чую багацце ў прыродзе наўкола,
Як сонца садзіцца павольна вунь за сялом.
Дарма, што сняжыць, што пад вечар прыцісквае холад,
Ды шчасце ў тым, што змагла апісаць я пяром.

## Зімовы эцюд

Маленькі квадрацік вакна,
За ім - беласнежна зіма.
Узораў на шкле філігрань.
Ты подыхам іх не парань.

Там поле, лясы і масты.
У футрах заснулі сады.
Мароз там калючы да слёз
Прычосвае косы бяроз.
Напраўшы нітак з канапель,
Такіх пахкіх, як карамель.

І зручна сеўшы за варштат
Хадзіў аснову лістапад.

Дадаў і шоўку, і парчы,
Ён ткаў і днём, ткаў і ўначы.
І пры Міхайлавым ужо дні
Накрыў карункамі палі.
Пад мяккім воплескам сініц
І амялушак-чараўніц,
Мільгнула ўранку за акном
Зіма срабрыстым рукавом.

## Зіма

За вокнамі зіма, і вецер крылаціць,
Нібы мятлой, падмятае снег.
За вокнамі зіма, а ў цёплай хаце -
Мята, хлеб і антонавак мех.

За вокнамі зіма і птушкі чубатыя
Рабіну ўсю страсянулі ўраз.
За вокнамі зіма, а я душою багатая,
І гэты вогнік яшчэ не згас.

За вокнамі зіма, а думкі пра цябе,
Ясны месяц адганяе сны.
За вокнамі зіма, як белы лебедзь,
Што лябёдку кліча між ранняе вясны.

## Дзівосны арнамент

Здаецца, не будзе ўжо лепшага дня,
Быццам нявеста ззяе Зямля.
І нават сухое танютка галлё
У раскошных мярэжках ківае здалёк.

Бярозы схілілі пад снегам галіны,
У белых кажухах стаяць усе яліны,
І нібы камеі*- марозныя вокны,
І толькі ў каліны яшчэ гараць гронкі.

Дарма, што мяце цэлы дзень завіруха,
Паціху вароны дзяўбуць абляпіху,
Выстуквае дзяцел на грушы старой,
Свісцяць амялушкі на радасць і ўцеху.

**Камеі - дэкаратыўныя прыкрасы.*

## Эцюд

Раскрылася неба ў вясновых абдымках,
Ужо лашчыцца сонца і злізвае снег.
Рачулкі сцякаюць то ўправа, то ўлева,
І павадак зносіць узбуджаны лёд.

Выплёсквае ў радасцях жаўрук сваю песню
У небе крынічным такая ўжо сінь!
І толькі бялюткая хмарка павісне,
І сеецца ў полі вясны ўжо цяплынь.

## Зімовы пейзаж

Варварын дзень - мяцеліца гуляе,
Вятры здзімаюць снег аж да раллі.
Спяшаецца зіма, усе дзверы адчыняе
І памаразь гайдае на галлі.

Станісты маразец раскрыў эцюднік,
У падрамнік уставіў зноўку палатно.
Дыхнуў на серабрысты пэндзлік
І ўзяўся маляваць акно.

На ім лясы, ажуры ён расквеціў,
Танюткі серпік месяца ўгары.
Варварын дзень - рагоча моцна вецер,
І на паўнеба ззяюць Касары.

* *Касары - сузор'е "Арыён".*

* * *

Я бачыла, як дыхала Зямля.
Лясы дрыжалі, нібы міражы.
У росах аксамітныя палі,
Палёт стрыжа на стромкім віражы.

Я бачыла, як дыхала Зямля.
Як травы разбуялі на мяжы,
А сонейка смяялася здалёк,
На вокнах малявала вітражы.

Я бачыла, як дыхала Зямля,
Таму што дожджык абудзіў яе ад сну.
І страпянулася ў хвіліны тыя я -
У ранішняй цішы я славіла вясну.

**Начная рапсодыя**

Лятак парушыў цішу ночы,
Няйначай напалову раскалоў,
А лістапад паціху смокча
Туман дажджоў, бы малако.

Трымціць ад холаду асінка,
А некаторым ужо сняцца сны,

Паскрыпвае старэнькая вярбінка,
Шапоча: "Ой, хутчэй бы да вясны…"

Спяшае ў ноч секундаў стрэлка,
На свечачцы патрэсквае агонь,
Гучыць нябачная жалейка,
Як подых родных паплавоў.

Сцякае воск салодкай цішшу.
У вуалі жоўтай мае сны,
Восень позняя нам вершы піша,
І недапісвае ізноў лісты.

**Сакавіцкі блакіт**

Вось сакавік развесіў пяшчоту блакіту.
Згарнуў растаўшы снег у званочкі-ручаі.
Вясне ён апране вяночак з першацвету,
А стужкі маляўнічыя даторкнуцца зямлі.

Жураўлікі ў небе вяснянку курлычуць.
У полі зеленівым мяккае жыта ўзышло.
Думкі да роднага дому перазвонамі клічуць.
Туды, дзе чакаюць, дзе пяшчота, каханне, цяпло.

* * *

Да Лета ў святліцу прыйшла ўбраная Восень.
Яшчэ зяляніна буяе, на скрыпцы цвыркун выйграе.
Жураўлікі раніцай стрэсваюць лагодныя росы.
І бабіна лета нам танюткую нітку снуе.

Румяніцца дзень, нібы далікатны меч-гладыёлус,
А вецер расчэсвае косы белых хмарын.
У іржышчы вароны вышукваюць згублены колас,
І сонца купаецца ў цёплых далонях вяргінь.

* * *

Гарачы чэрвень зноў валошкамі квітнее,
Танцуе жыта ў ветравай віхуры.
Мне верыцца, што песня прамянее,
І мае словы ёсць у партытуры.

Пяшчотна песня крыламі ўзвівае.
Зірнуць запросіць дзіваў-дзіўных рай,
Лагодным зернеткам у душы западае
І спевам заварожыць родны край.

## **Стаката***

Дожджык грае на лісцях стаката*,
Вецер клёнам цярэбіць віхуры.
А пад ім, як з бурштыну дукаты,
Жвава апенькі скачуць мазура.

Скрозь хмары, як быццам у люстэрцы,
Выглядвае сонца яшчэ пад вечар.
На калодзежным зрубе абсохне вядзерца,
Нядоўга і хацінка пагрэе плечы.

Гронкі каліны грэе саспелыя,
Кожную ягадку - сэрца дзявочае.
Шчодрая восень і вельмі зменлівая
Пяшчотна й балюча крануць душу хоча.

* *Стаката - музычны тэрмін - коратка, адрывіста.*

## **Спёка**

Нясуцца аблокі
Транзітам над вёскай,
То белыя, то шэрыя - як быццам пярыны.
Спякота ўгрызаецца

У зямельку злосна.
Грукоча! А дажджу ... а дажджу - ні крапліны.
Успыхваюць у небе
Сляпыя зарніцы.
Хвастае ўжо дождж за суседнім сялом,
А ў лузе пажоўкла
Зялёная травіца,
Калоціцца спёка пустым вядром.

## Сунічнае лета

Распаліся суніцы па густой траве,
Нібы каралі сонейка збірала.
З табой сустрэліся мы ў сне ці наяве,
Зязюля ў лесе доўга кукавала.

Сунічны ліпень кветкамі пахціць,
Квітнее жыта, вішні румянеюць
І ластаўка, шчабечучы, ляціць.
Сустрэчы нашы сэрца маё грэюць.

Лячу, лячу я да цябе, звініць прасцяг,
Штовечар я шукаю ў небе зоркі.
Жыццём змяраю Млечны шлях,
А нас чакаюць родныя пагоркі.

Сунічнік лета - пахаў салавей,
Ужо папараць вычэквае Купала.
Я жыць не буду без тваіх вачэй,
У ноч сунічную цябе прычаравала.

* * *

Не палохай мяне, восень,
Ігрой ветру на флейце,
Таму што яшчэ сонечна,
Хоць і кастрычнік на ўзлёце.

Грушы, яблыкі паспелі,
Прагна просяцца ў рукі.
Там высока на шпілі,
Ужо вісяць дні разлукі.

І ўжо бабіна лета
Вяжа ніткаю травы.
І гучыць кумпарсіта*
Праз адкрытыя брамы.

Жоўтае лісце збіраю,
Бы жаданняў канверты.
У іх табе пасылаю
Тыя восені санеты.

Хоць і познія, і цёплыя, -
Гэта ж лёсу падлікі.
Іграй, вецер, на флейце,
Я збіраць буду зоркі.

**Кумпарсіта - аргентынскае танга.*

## На Івана, на Купала

На Івана, на Купала
Доўга так гарэла свечка.
"Я люблю!" - табе казала,
І паўторвала мне рэчка.

А вянок гайдаўся ў хвалях,
Месяц зоркі сыпаў з неба,
І цвіло ў лясах чар-зелле,
Пацалункі пахлі мёдам.



*Аляксей Траццяк нарадзіўся 26 сакавіка 1964 года ў г. Капылі. Закончыў СШ №3.*

*Займаецца відыё і фотаздымкай. Захапляецца беларускай паэзіяй і гісторыяй Беларусі.*

## Аляксей Траццяк

* * *

Божа мой, жыццё праходзіць,
Божа мой, бяжы хутчэй.
Цяжка верыць, што не зводзіць
Нехта з нас сваіх вачэй..

Божа мой, нуда навокал,
Божа мой, апошні смех.
Паляванне ладзіць сокал,
Паляўнічы недзе збег.

Божа мой, гляджу я ўпарта,
Божа мой, сляпыя дні.
Разумееш тут, што варта
Ў цэрквах зноў тушыць агні.

Божа мой, змілуйся, досыць,
Божа мой, які праклён...
А надзея бачыць постаць,
Там у мгле... гляджу - не Ён.

* * *

Я родны свой Капыль не кіну,
Не з'еду ў лепшыя краі.
Тут, на пагорках я загіну
Ў апошнім для мяне баі.

Дзе водар бэзу і язміну,
Дзе роўнядзь сціплая азёр.
Тут, на пагорках я загіну,
Бо мамка... татка тут памёр.

Дзе маляўнічыя мясціны,
Мінулых дзён мае сябры...
Тут, на пагорках я загіну,
Ў нябёсы гледзячы з гары.

І выйсце ў цяжкую часіну
Знаходжу тут, і дзе б ні быў...
Тут, на пагорках я загіну,
Бо моцна гэты край любіў.

* * *

Усё нездарма, жах непамерны
Не можа ўсіх забраць у палон,
Бо лепшых, Божа міласэрны
К сабе забраў да пэўных дзён.

Калі надыдуць, бойкі тыя,
Каб запалохаць нас з табой.
То з неба, нашыя святыя
Нам дапамогуць выйграць бой.

* * *

Апошнім часам, мокрым ад нуды,
Дням снежаньскім - адна спагада.
Касцёл сумуе трошкі, на гары,
Не можа дачакацца ён Калядаў.

На пляцы ёлка, казачны настрой,
Агні блішчаць у накірунку к Богу...
І крочу я да праўды, пехатой,
І дождж ідзе і шкодзіць мне ў дарогу.

* * *

На беразе маёй надзеі
Дзе грэе прывід пачуцця
Свае бакі, бягуць падзеі
Пад сонцам,
скрай майго жыцця.

Яны бягуць шалёным спехам,
Губляюць вобраза ля мяжы
І аддаюцца ціхім рэхам
У закутках маёй душы.

Я стрымана гляджу на гэта,
Бо ведаю, што ў пэўны час
Ад зорак прыляціць ракета
І забярэ мяне ад вас.

* * *

Дом, мілы мой куток,
Дзе я яшчэ малады,
Дзе тата, дае мне ўрок,
І ён зусім не стары.

Дзе маці, шкадавала так,
Што я выбачаў усіх,
Хай ўсё было абы як,
Шчаслівым я быў за траіх.

Цяпер, не вярнуць назад
Той цяжкасці светлыя дні,
І той незразумелы лад,
І іншыя ў вокнах агні...

Але ва ўспамінах зноў
Я праўду шукаю ў жыцці.
Ад гарэлкі мой тата сышоў,
І мамка рашыла сысці.

І дзе тая праўда, дзе
Знайду, а куды яе ўзяць...
А можа, наперадзе
Яе мне ўжо не пазнаць.

А можа ўсе сэнсы ўцяклі
З жыцця, што стамілася браць,
Тады, калі татку няслі
На могілкі адпачываць.

Спяшаецца за намі год,
І мітусня як след спрыяе
Такой нагодзе, наш народ,
Заўсёды новага чакае.

Такога, што глядзіць удалеч
І казкаю цябе знаходзіць,
І ты ганяеш думку прэч,
Што пройдзе цуд, бо ўсё праходзіць.

А стары год каторы раз
Шэпча даверліва: “Наперад”, -
Што ў будучыні ўсё для нас...
І мы так хочам у гэта верыць.

Бо мы, як дзеці, светла нам,
Што снег, што ветрык, што завея,
Што добра блізкім і сябрам,
Бо новы год нясе надзею.

І нездарма той год бяжыць,
Бо новаму ўжо верацьлюдзі...
Што Дзед Мароз, што будзе жыць,
Дай Бог, і мы жывыя будзем.

* * *

Хай пройдзе ўсё, што замінала
Без хвалявання год пражыць,
Каб у новым, сэрца заспявала,
Каб усю бяду закалыхала,
Нуду змагло заваражыць.

Каб адзіноце не да спеху
Было пад гэты Новы год,
Каб не было тут месцу ліху,
Каб шчасця многа і пакрыху
Стаў беларускім мой народ.

* * *

Усё пройдзе, і не зменіш,
Што можа і хацеў б змяніць,
І ў галаве ўсё больш звініць,
І гэтак у душы баліць...
Яшчэ жывы, але не зменіш.

Усё будзе гэтак, як учора,
Калі пачаў ты сумаваць,
І многа ведаць, мала браць
І высілкі усе аддаць...
Жыццё прайшло, аднак, учора.

Усяму ёсць сэнс і свой пачатак,
І скончыцца ў патрэбны час,
Усё тое, што кахала нас,
Засцерагала колькі раз...
Але прайшло, і зноў пачатак.

* * *

Там на пагорках, на азёрах,
Дзе плёскат на нямой вадзе,
Ціхоня сказ распавядзе
Пра недасяжны небасяг
І мокры свой, адвечны шлях.

Пра час далёкі, сівы, дзе
Другой была зусім прырода,
У пашане гэтага народа,
І дзе рака, з сабою ў згодзе,
Цякла, як быццам, на стагоддзі:

Па ёй туры плылі, пылілі
Па тых дарогах даўніны
Мясцін тутэйшыя сыны,

Што на зямельцы працавалі,
А кавалі тут моц кавалі.

Той час быў дзікі, цяжкі лёс
Усім дастаўся поўнай мерай,
Вайной, чумою і халерай.
На ўсе падзеі свой узнос,
Смярцямі гэты край аброс.

Але жыццё не затрымаеш,
Вякі скідаць, як крыж з плячэй,
Яно бяжыць слязой з вачэй,
А ты надзею абдымаеш,
І гэта тое, што ты маеш.

Дні адцякаюць, дні ляцяць,
Ты быццам маладосць трываеш,
Бо ты даўно ўжо не кахаеш,
Даўно на гэтых водах гладзь
Не зразумець і не пазнаць.

Там ззаду бурныя парогі,
Цяпер азёры, штучны лад
І незнаёмы далягляд...
І колькі б не насілі ногі,
Усё тут іншае, і богі.

Як у буран апошні крык,
Тваё жыццё у нішто зыходзіць,
І толькі ветрык гукі бродзіць,
Пра вірніка, што быў, ды знік...
Цяпер ціхоня - я..., прывык.

Што засталося, дружа мілы,
Глядзець, як круціцца мой вір?
А там ад неба дзьме зефір...
І так далёка да магілы,
Што мне трываць, бракуе сілы.

Мне не памерці, Божа мой,
Я ўсё чакаў, што ўсё растане,
А я жыву, і ў гэтым стане
Мне смутак валачы з сабой
І бавіць вечар свой з табой.

Няма ва ўсім ніякай рады,
І ты прывалачэшся зноў,
Сюды, ка мне, на свой улоў,
Каб мае сціплыя наяды
Былі табе, як Богу, рады.

* * *

Знайдзі ў сабе сілы, нас клічуць падзеі,
Калі не знайшоў - то знаходзь.
Дзе можна, дзе не - ты фарбай надзеі
Малюй усім людзям: “Выходзь!”

І выйдзем не сотняй, каб скінуць той сорам,
А ўсёю Радзімай на сход!
Мы маем годнасць, мы маем гонар
Мы - беларускі народ.

Не трэба падтрымкі, ніякіх дарадцаў,
Ні злосных, ні добрых - ані.
Ужо перасталі ўсіх мы баяцца,
Ужо новыя блізяцца дні.

Сцягі залунаюць, бязлітасным морам
З Пагоняй - у новы паход.
Мы маем годнасць, мы маем гонар,
Мы - беларускі народ.

І нам не памерці, з калень падняліся,
Каб жыць і ў гэтакі час.
За волю, за долю над страхам узвысся,
І будзе не злічана нас.

Мы скінем абрыдлы прыгнёт - наша гора.
Ні захад - не пан нам, ні ўсход.
Мы маем годнасць, мы маем гонар,
Мы - беларускі народ!

* * *

Не будзем гукаць ні вясну, ні лета,
Даволі глядзець на неба.
Наша змаганне, змаганне - гэта
Першая наша патрэба.

Скінем няволю, што душыць праўду,
З якой мы заўсёды разам.
Наша змаганне - кожнаму ў хату,
Кожнаму праўду скажам.

Не па дурноце, ці іншай мэце,
Не наша гэта дарога
Наша змаганне, на гэтым свеце,
Каб свет быў адно ад Бога.

Мы пераможам, няма сумневу,
Жах мы даўно згубілі.
Наша змаганне, яно па праву,
Па праву, што мы зарабілі.

Колькі гадоў, нас усе душылі,
Лічылі, што мы - недарэкі.
Наша змаганне, даўно рашылі -
Вольнымі станем на векі.

Не трэба гукаць ні вясну, ні лета,
Адказаў не трэба многа.
Наша змаганне - апошняя мэта,
Нашая перамога.

* * *

Каляды гуляюць па нашым носе,
Віхор гуляе па нашай веры,
А мы ўсё ў Бога, як дурні, просім
Даверу, каб да халеры.

Снежань кліча ў свае гулянкі,
А мы ад надзеі, далёка недзе
Але усё добра, ад дробнай п'янкі
Вялікі шлях да падзеі.

Зорка ўспыхне, знойдуцца людзі,
Пойдуць шляхамі мэты -
Бога знайсці, рукі на грудзі
Кожны хто зложыць - святы.

І пакрыху, да вечнай славы,
Каленямі змучым падлогу,
Убачым усё, бо свет дзіравы
І дзіркі вядуць усіх к Богу.

* * *

Колькі трываць, нежывы
А бацька крычаў: “Абрыдла,
Не памрэш сынку, то жыві -
Пайду за цябе я ў пекла.

Аддам усё, усё, што маю,
І што зарабіў, і як змог,
Без цябе не ўяўляю,
Хто я, і хто мой бог.

Прабач, што быў не вечны,
Але заўжды гляджу,
Як тут у цябе недарэчна -
Я ўсё табе падкажу.

Не бойся памылак розных,
Для мяне ты заўсёды лепшы,
І лепей раней, чым позна,
І лепш па жыцці пешым.

Пойдзеш шляхамі праўды,
Памятай, што і ты не першы,
Хто збягаў, ад сваёй хаты,
Каб пісаць пра сябе вершы.

І можа ў вершах гэтых
Не багата перлаў у гноі,
Але лепшай не маеш мэты -
Заставацца заўжды сабою.

* * *

Што не год, то ў вышыню нешта паляцела
Можа, гэта феерверк, можа, нешта з цела.
Разламаўся лёс ушчэнт, яго не прымусіш,
Калі к зоркам запусцілі, то, напэўна, душу.

Хай ляціць яна туды ярка і зацята,
Хай сустрэнуць там яе мамачка і тата.
Ну а тут, нязграбна ўсё і зусім не ціха,
Тут страляе перуном, будзіць зноўку ліха.

Хай ляціць яна і нас абдымаць не смее,
Замінаць хай будуць ёй, ветрык і завея.
Бо і ў снежаньскія дні мы чакаем ласкі
Верым, што абдыме нас завіруха з казкі.

Абароніць нас ад зла, а душа хай верыць,
Што мы любім тут усіх, ёй адчынім дзверы,
Каб ляцела ў іншы край, а мы пачакаем,
Да апошняга ў жыцці, мы жыццё кахаем.

Паміраць не першы раз, колькі ўсіх прапала,
Дай ты нам сваё пражыць - гэта ўжо не мала...
І на снежаньскай дарозе, весела і гучна,
Мы святкуем і жывём - нам вось гэтак зручна.

Барані нас Бог, глядзі і не дай загінуць,
Аддаваць сваё жыццё, тут не клункі скінуць...
А табе туды ляцець, дзе на небе свята,
Бо сустрэнуць там цябе мамачка і тата.

## Марына Коршук

*Марына Васільеўна Коршук, настаўніца рускай мовы і літаратуры ДУА "Слабадакучынская сярэдняя школа".*

*Наразілася ў 1975 годзе ў вёсцы Вялікія Жухавічы Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці.*

### Будзем помніць

Даўно мінула чорная вайна,
Цяпер спакойна спіцца і жывецца,
Але ж пакінула свой след яна,
Забыць яе ніяк нам не ўдаецца.

Мы вечна будзем помніць пра салдат,
Пра той спакойны, ціхі, летні ранак,
Пра ўзрывы бомб, пра подступы атак,
Калі вайна ўзышла на родны ганак.

Вайна, як коўдру, рассцяліла смерць,
Забрала маладых, старых і дзетак.
Радзіма загаіла раны ледзь,
Амаль ужо няма вайны і сведак.

А зараз кветкі па садах цвітуць,
Варкуе голуб пад страхою хаты,
І дзетачкі шчаслівымі растуць -
Няхай для іх шчаслівыя ўсе будуць даты!

## Уладзіміру Караткевічу

На камяністым беразе жыцця
Пісаў і жыў ён дзеля Беларусі.
Прайшоў ён цяжкімі дарогамі быцця,
Яго люблю і ім я ганаруся.

Ён талент ад Бога прыняў,
І сям'я ў гэтым яму паспрыяла.
Ён любай Радзіме сэрца аддаў,
У вершах яно акрыяла.

Ад дзеда Васіля ўрок атрымаў,
Да мовы сваёй прырадніўся.
А потым у творах сваіх перадаў,
Бо мовай сваёй ганарыўся.

З дзяцінства ён кнігі ўжо палюбіў,
Ды толькі вайна напаткала.
Але любай мовы радкі не забыў,
Хоць гора зведаў нямала.

Задумлівы і летуценны сузіральнік,
Стаіць ён сёння паміж намі.
Легендаў, казак, п`ес ствавальнік,
Стаіць пад "белымі крыламі".

## Маёй матулечцы

Матулечка родная, мілая мама!
К табе прытуліцца так хочацца зноў,
У дзяцінстве хачу апынуцца таксама,
Прыехаць к табе, як калісьці, дамоў.

Мілая, родная, самая лепшая
Ва ўсім белым свеце ты для мяне.

Матулечка, мама - слова найпершае,
Як сонейка промні даруе вясне.

Я помню, як ты, мая мілая мама,
Зарана ўставала, у поле ішла,
Даіла карову, сняданак збірала,
Любіла нас, дзетак, як толькі магла.

У школу збірала, давала парады,
Расціла, лялеяла і берагла.
Заўсёды абняць цябе зараз мы рады -
Усё ты паспела, усё ты змагла.



## Маргарыта Саковіч

*Саковіч Маргарыта Уладзіміраўна нарадзілася ў 1962 годзе на Гарадзеншчыне. Скончыла Лідскі індустрыяльны тэхнікум, а затым Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы. Філолаг. Некаторы час працавала ва ўстановах адуацыі Бераставіцкага і Капыльскага раёнаў.*

*Жыве на Капыльшчыне з 1988 года. Амаль 23 гады працавала ў рэдакцыі раённай газеты "Слава працы": карэспандэнтам, загадчыкам аддзела, вяла праграмы капыльскага раённага радыё. 20 гадоў займала пасаду намесніка галоўнага рэдактара. На дадзены момант на пенсіі.*

*Член ГА "Беларускі саюз журналістаў", двойчы ўзнагароджвалася Ганаровай граматай гэтага грамадскага аб'яднання. Член літаратурнага аб'яднання "Вясёлка", створанага пры рэдакцыі газеты "Слава працы" і Капыльскай раённай цэнтральнай бібліятэцы імя А. Астрэйкі.*

### Калі паслізнецца Дзед Мароз
### (Казка)

Ішоў па вуліцы Дзед Мароз і горка плакаў. Слёзы каціліся па яго сівой барадзе і замярзалі, ператвараючыся ў маленькія ледзяшы. Свавольнік вецер перабіраў застыўшыя кропелькі, і гучала мелодыя, ледзь чутная, але такая прыгожая, што сам гарэза ад задавальнення пачынаў яшчэ шпарчэй кружыцца, уздымаючы снег. А Дзед Мароз крочыў, не зважаючы ні на забавы ветру, ні на завею.

- Што ж я нарабіў? Які ж я няўклюда! Зусім скора ўзыдзе сонца, і Васілёк паспяшаецца пад ялінку па падарункі. А там...

Маркотны пераступіў Дзед Мароз парог свайго доміка, што схаваўся ў лясным гушчары. Распаліў камін і сеў ля агню. Ён глядзеў на языкі полымя, якія весела абдымалі паленцы. Звычайна гэты занятак заспакойваў старога, але не сёння. У памяці адна за адной усплывалі карціны мінулай ночы.

Вось ён з цікавасцю адкрывае вялікі, прыгожа размаляваны канверт і дастае ліст. "Добры дзень, дарагі Дзядуля Мароз! Піша табе Васілёк. Я вельмі хачу атрымаць на Новы год у падарунак самалёт. Мая самая вялікая мара - стаць лётчыкам".

А паслужлівая памяць падсунула новы абразок: ён, Дзед Мароз, здымае з паліцы вялікі аэраплан і кладзе яго ў пакунак. Пры гэтым стары жмурыцца ад задавальнення ў прадчуванні дзіцячай радасці.

А пасля адбылося тое, што прымусіла Дзеда Мароза так перажываць. Ідучы па начной вуліцы ўжо каля самага Васількова дома, ён раптам паслізнуўся і падарунак выпаў з рук, разляцеўшыся на дробныя кавалачкі. Переднавагодняя ноч ужо заканчвалася, і ў Дзядулі Мароза не было магчымасці вярнуцца дамоў па новую цацку.

Вось такая сумная гісторыя здарылася напярэдадні Новага года. І не трэба вельмі крыўдаваць на Дзеда Мароза, калі ты не знойдзеш пад ёлачкай святочнага падарунка. Ён пра цябе не забыў, відаць, здарылася нейкая неспадзяванка.

### Пра Агурок, які лічыў сябе самым прыгожым

- Паглядзі, які ён смешны! Зялёны, з нейкімі пупырышкамі...

- І зусім не смешны, а вельмі прыгожы. Ва ўсякім разе, мне падабаецца...

- Нічога сабе, прыгажосць знайшоў! Прыгожа - гэта калі ўвесь стракаты: жоўты, чырвоны, белы, блакітны. А тут... Куды лепш было раней, калі на гэтым месцы цвілі жоўценькія кветачкі. Так цудоўна было адпачываць на іх пялёстках!

Маладзенькі Агурок расплюшчыў вочкі і пачаў азірацца - хто ж гэта тут спрачаецца?.. І ўбачыў перад сабой на лістку двух Матылькоў, якія, памахваючы рознакаляровымі крылцамі,

глядзелі на яго.

"Цікава, пра каго яны тут гаварылі? - падумаў Агурок. - Няўжо пра мяне?" Ён агледзеўся па баках. Пад суседнімі лісткамі салодка спалі нейкія дзіўныя істоты, якіх ён яшчэ ніколі не бачыў.

- Скажыце, калі ласка, - запытаў Агурок, звяртаючыся да Матылькоў. - Вы часам не ведаеце, хто гэта побач са мной ляжыць?

- Ха-ха-ха! Ён яшчэ ў дадатак і зусім дурненькі! - зарагатаў Матылёк з вялікімі сінімі плямамі на крыльцах. - Ой, не магу! Сваіх братоў не пазнаў!

- Ды супакойся ты! Бачыш, ён толькі сёння ўначы на свет з'явіўся, - разважліва прамовіў другі Матылёк. І, звяртаючыся да Агурка, растлумачыў: - Яшчэ ўчора ты быў жоўценькай кветачкай. Мы вельмі любілі прылятаць сюды і сядзець на тваіх пялёстках, а за ноч ты з кветачкі параггварыўся ў невялікі зялёны агурочак. А побач з табой спяць такія ж самыя агуркі, як і ты.

- Дык гэта я вам не спадабаўся?.. Значыць гэта я - зялёны, са смешнымі пупырышкам!? - засумаваў Агурок.

- Не перажывай, ты вельмі прыгожы. І не слухай, што гаворыць гэты Матылёк. Проста ў яго дрэнны характар. Але нам час ляцець. Бывай! Мы яшчэ сустрэнемся.

З гэтымі словамі Матылёк узняўся і хуценька паляцеў прэч. Следам за ім знік і другі.

- Дык значыць, я прыгожы, - аглядаючы сябе, падумаў Агурок. - А чаму б і не? Вунь які зграбны. Ніхто з маіх братоў са мной параўнацца не можа. А якая беленькая шапачка ў мяне на галоўцы! А якія цудоўныя чорненькія кропачкі на маіх бачках, спінцы і жывоціку. Не, усё ж я вельмі прыгожы!

Сонейка ўзнімалася ўсё вышэй і вышэй. Неба было такое блакітнае, без адзінага воблачка. Ціхі ветрык пяшчотна лашчыў тугія бачкі Агурка, шамацеў лістамі ў яго над галавой. Прачнуліся і астатнія жыхары агурочнай градкі. Яны весела перагаворваліся, радаваліся сонейку і цяплу. Толькі наш герой ляжаў надзьмуты з поўнай упэўненасцю, што яго суседзі не вартыя таго, каб ён звяртаў на іх увагу.

Пад вечар на агародзе пачуліся галасы.

- Мама, паглядзі які прыгожанькі агурочак, а вось яшчэ адзін і яшчэ. Колькі іх тут! - як званочак, звінеў хлапечы галасок.

Агурок асцярожна выглянуў з-пад лістка, дзе ён асталяваўся, і раптам скалынуўся ад жаху. Проста на яго апускалася босая дзіцячая нага. "Не, толькі не гэта! Зараз яна мяне раздушыць!" - мільганула трывожная думка. Агурок шчыльна праціснуўся да лістка і заплюшчыў вочкі. Але ножка апусцілася побач з ім, а праз хвіліну і наогул знікла. Яшчэ колькі часу, і размовы сціхлі.

- Усё, пайшлі, - з палёгкай уздыхнуў Агурок і азірнуўся. Наўкола былі відаць толькі лісты, усе яго браты зніклі. - Як добра! - з задавальненнем падумаў ён. - Цяпер ніхто не будзе перашкаджаць пустымі размовамі, і я спакойна змагу палюбавацца сваёй прыгажосцю.

Настала ноч. Агурок салодка заснуў пад лістком. Назаўтра ён зноў грэўся на сонейку і думаў пра тое, што прыгажэй за яго няма нікога. Так міналі дні.

Аднойчы Агурок прачнуўся ад таго, што нехта побач моцна зашамацеў лістамі ў агурэчніку, якія ўжо сталі жоўтымі і сухімі.

- Паглядзі, а адзін застаўся. Як мы яго прапусцілі? - чуўся жаночы голас.

- Ну, нарэшце, мяне заўважылі. Цяпер усе на свеце ўбачаць, які я прыгожы, - узрадаваўся Агурок.

- Мама, ён жа амаль згніў! Куды яго падзець?

- Выкідай разам з агурочнікам на сметнік.

Агурок адчуў, як спрытныя пальцы адарвалі яго ад зямлі шпурнулі на ахапак зелля. "Няўжо я памыляўся?" І гэта была апошняя думка, якая мільганула ў яго дурненькай галаве.

## Навагоднія прыгоды Алёнкі, Настачкі і Анфіскі

Алёнка стаяла ля акна і назірала, як кружыліся ў святле ліхтара маленькія сняжынкі. Яны быццам бы танцавалі нейкі незвычайны, дзівоснай прыгажосці танец. Яе сястрычка Настачка ўкладвала ў лялечны ложак сваю любімую цацку -

малпачку Анфіску.

- Дачушкі, час класціся спаць, - пачуўся з суседняга пакоя голас мамы.

Дзяўчынкі паслалі ложак, хуценька распрануліся і схаваліся пад цёплай коўдрай.

- Я хачу, каб мне прысніўся заўтрашні ранішнік, Дзед Мароз, Снягурка. Так хочацца хутчэй апрануць новую сукенку! Ты не забылася паўтарыць верш, які будзеш расказваць на свяце? - запытала Алёнка ў сваёй малодшай сястрычкі.

- Не, я яго добра вывучыла. Мне здаецца, што заўтра павінна адбыцца нешта незвычайнае.

Размова паступова заціхла, і праз некаторы час у пакоі ўсталявалася цішыня. Толькі ходзікі на сцяне мерна адлічвалі хвіліны, ды за акном пасвістваў вецер, пераганяючы з месца на месца снежныя гурбы.

Раптам пачуўся трэск, маятнік гадзінніка сутаргава тузануўся і спыніўся. На неба насунулася вялікая цёмная хмара. Вецер задзьмуў мацней, трывожна замітусіліся сняжынкі.

Настачка прачнулася ад таго, што ёй падалося, быццам бы нехта кліча яе. Яна адкрыла вочы і ўбачыла побач са сваім ложкам дзве постаці. Гэта былі маленькія дзяўчынкі ў белых празрыстых сукенках з крылыдамі за плячыма. Яны стаялі і тоненькімі галаскамі, падобнымі на переразвон званочкаў, клікалі Настачку і Алёнку.

Настачка хуценька расштурхала сваю сястрычку. І дзяўчынкі, прыўзняўшыся з ложка, з цікавасцю разглядалі незвычайных госцяў.

- Хто вы такія? - са здзіўленнем запытала Алёнка. - Што вы тут робіце?

- Мы - Хвілінкі. А прыйшлі да вас па дапамогу. Злосная вядзьмарка Завіруха спыніла час, і цяпер ніколі не наступіць заўтра, не прыйдзе Новы год, Дзед Мароз і Снягурка не завітаюць у госці да дзяцей і не прынясуць ім святочных падарункаў.

- А чаму вы прыйшлі менавіта сюды?

- У чароўнай кнізе сказана, што толькі вы зможаце дапамагчы.

- А што мы павінны зрабіць?

- Трэба знайсці крышталёвы ключ і адамкнуць ледзяны замок. Ім Завіруха зачыніла пакой, у якім схавала нашых сястрычак Хвілінак. Толькі нам удалося ўцячы ад яе. І вось мы тут.

- Ну, што будзем рабіць? - запытала Алёнка ў сястрычкі.

- Не трэба доўга раздумваць! Ты ж хочаш, каб заўтра быў ранішнік і прыйшлі Дзед Мароз са Снягуркай. Трэба збірацца ў дарогу.

- Але ж мы не ведаем, куды ісці!

- Мы ведаем, мы дапаможам, - зазвінелі сваімі тонкімі галаскамі Хвілінкі.

Дзяўчынкі хуценька саскочылі з ложка, апрануліся.

- Я вазьму з сабою сваю Анфіску, - сказала Настачка, зашпільваючы гузікі на футры. Ціха, каб не пабудзіць бацькоў, сястрычкі выйшлі на двор Навокал бушавала мяцеліца. Снег сляпіў вочы, балюча калоў твары.

- Куды ісці, навокал замяло ўсе дарогі? - сумеліся дзяўчынкі.

- Ідзіце за намі, мы вас правядзём, - пачуўся галасок Хвілінкі.

Дзяўчынкі са здзіўленнем заўважылі, што крылцы Хвілінак загарэліся яркімі агеньчыкамі. Узняўшы каўнерыкі сваіх футрачак, дзяўчынкі смела пакрочылі ўслед за маленькімі правадніцамі.

- Адпусці зараз жа, што так моцна мяне ціснеш? Мне баліць. Я сама пайду, - пачуўся нечый голас.

Настачка ад нечаканасці выпусціла з рук сваю любімую малпачку.

- Што ты так глядзіш? Гэта я размаўляю. Што ж тут незвычайнага? Мы ж знаходзімся ў казцы, - засмяялася Анфіска.

Узяўшыся за рукі, дзяўчынкі пакрочылі далей. Анфіска, падскокваючы, бегла наперадзе, раз-пораз азіраючыся на сястрычак. Яны ўвайшлі ў стары лес. Тут, пад аховай векавых елак і соснаў, было зацішней. Дрэвы стаялі, захутаныя ў белыя футры. Зрэдку з галін падалі вялікія камякі снегу. Ад сцяжынак не засталося і знаку. Дзяўчынкі часта правальваліся ў сыпучы

снег, ісці станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Неўзабаве лес скончыўся, і падарожнікі апынуліся на беразе невялікай рачулкі. Яна была пакрыта празрыстым лёдам. За ракой рассцілалася роўнае поле, і толькі на яго ўскраіне віднеўся дах вялікага дома.

- Гэта і ёсць замак чараўніцы Завірухі, - растлумачылі Хвілінкі.

- Трэба хутчэй да яго дабрацца. Але ж так цяжка ісці па гэтым снезе, - засмучана сказала Алёнка.

- А я ведаю, што рабіць, - заскакала Анфіска. - Трэба далей ісці на лыжах.

- А дзе ж мы іх возьмем?

- Гэта вельмі проста!

Анфіска падбегла да бліжэйшай сасны і з-пад снегу ля яе ствала выцягнула чатыры сухія галінкі. Малпачка пляснула ў далонькі - і на сцяжынцы з'явіліся новенькія лыжы. Дзяўчынкі з радасцю прымацавалі іх да сваіх ботаў і памчаліся наперад услед за Хвілінкамі.

Ля замка нікога не было відаць. Вакол стаяла такая цішыня, што, здавалася, звініць у вушах.

- Крышталёвы ключ Завіруха хавае пад сваю падушку. Трэба выцягнуць яго, - растлумачылі Хвілінкі.

Дзяўчынкі, стараючыся ступаць на пальчыках, ціхутка ўвайшлі ў замак. Нават гарэзлівая Анфіска прысмірэла. Яны асцярожна прайшлі праз вялікую залу. Навокал усё ззяла беллю, было вельмі халадна. Іней пакрываў сцены і столь. Дзяўчынкі падышлі да абледзянелых дзвярэй.

- Гэта пакой самой чараўніцы. Цяпер яна спіць, - прашапталі Хвілінкі.

Дзяўчынкі асцярожна націснулі на ручку дзвярэй, і яны ціха адчыніліся. Пасярод пакоя стаяў вялікі ложак, пакрыты бялюткай коўдрай. На ім спала Завіруха. Ціха наблізіўшыся, Настачка засунула руку пад падушку і намацала ключ. Асцярожна, стараючыся не пабудзіць чараўніцу, дзяўчынка выцягнула яго, і дзеці паспяшаліся пакінуць пакой. Па лесвіцы, што вяла ў вежу, яны падняліся да самага апошняга паверха. Там убачылі дзверы і вялікі ледзяны замок на іх. Адзін паварот ключа, і шчаслівыя Хвілінкі абступілі дзяўчынак, якія не толькі

прынеслі збавенне для іх, але і вярнулі свята ўсім дзецям.

Дарога дамоў была хуткай. На ганку свайго дома Настачка ўбачыла, як Анфіска раптам пахіснулася і ўпала ў снег. Дзяўчынка падбегла да яе і падхапіла на рукі. Гэта была зноў мяккая цацка са смешнымі адтапыранымі вушамі. Казка скончылася.

Калі дзяўчынкі ўвайшлі ў пакой, на сцяне зноў пастуквалі ходзікі. Дзеці хуценька леглі ў свой ложак, думаючы аб тым, як пазайздросцяць ім сяброўкі, калі яны заўтра раскажуць аб сваіх прыгодах.

## Алена Острыкава

### Адзінокая хаціна

На самым узгорку стаяла пахілая хаціна. Пабудавана яна была задоўга да вайны і прыгожа ўпісалася ў мясцовы пейзаж. Побач і насупраць ужо стаялі хаты, і яны дружалюбна прынялі яе ў сваю сям'ю. Цешыліся адна з адной, хваліліся сваімі абновамі, а часам і спрачаліся: хто з іх выглядае прыгажэй? І кожная з іх хавала свае сакрэты. Ішлі гады, старэлі гаспадары, старэлі і самі хаты. У кожнай з іх склаўся свой лёс. У адну з іх стукнула маланка, і хата згарэла. Дзякаваць богу, гаспадары паспелі выбегчы з яе. Усе пажыткі згарэлі, засталіся толькі печ ды падмуркі. Гаспадары пагаравалі ды пераехалі ў старую бацькоўскую хату, а месца гэтае пачало зарастаць быльнягом. Сумна склаўся лёс і другой хаты. Гаспадары састарыліся, памерлі, а дзетак ім бог не даў. Засумавала і хата, пачала паступова рушыцца: спачатку дах праваліўся, а пасля і сцены пайшлі ў зямлю. Мясцовыя жыхары разабралі яе на дровы. Усё часцей пачала задумвацца і адзінокая хаціна: а што калі і яе напаткае такі ж лёс? А ёй гэтага так не хацелася, і яна адганяла свае сумныя думкі. Ды і навошта так думаць? Гаспадары яшчэ былі ў самай сіле, ды і дзеткі падрасталі: два сыны і дачушка. Супакойвала сябе хаціна і з суседкаю часта аб гэтым гутарыла.

Калі б сцены маглі гаварыць, яны б расказалі вельмі многае: як некалі пасля вайны маладыя Міхась і Алена сваімі рукамі адбудоўвалі напалову спаленую бацькоўскую хату. Грошай не хапала, дапамогі ніякай. Міхась толькі што вярнуўся з вайны, а Алена расла сіратой у цёткі. Нястача, голад, даводзі-

лася лес красці па начах. Усё рабілі сваімі рукамі. Дзякаваць богу, Алесь быў майстар на ўсе рукі: і цесля, і сталяр. Усе рабілі з цеплынёй і любоўю. Марылі аб тым, як будуць жыць шчасліва, гадаваць дзетак. Абзавяліся гаспадаркай, траіма дзяцьмі. Цешыліся з жыцця, цяжка працавалі: усё для іх. Пагадавалі, вывучылі, адправілі ў жыццё ў вялікі горад. Спадзяваліся, што дзеці стануць дапамогай у старасці.

Аднак шчасце не было доўгім. Ваенныя раны не далі доўга пажыць Міхасю: яшчэ і шасцідзесяці не споўнілася, як пайшоў з жыцця. Засталася Алена адна, засумавала, затужыла пасля смерці каханага. Адзінай радасцю былі дзеці. А ў тых у горадзе сваё жыццё, свае турботы - усё радзей пачалі наведваць матулю. Успамінала Алена свае маладыя гады, сваё жыццё і чакала дзяцей. Кожную машыну праводзіла сумным позіркам, у кожным прахожым бачыла мілыя твары. А яны ўсё не ехалі… Толькі па тэлеграме прыехалі, на пахаванне. На другі дзень забілі вокны дошкамі і зноў прадоўжылі жыць сваім жыццём.

Апусцела хата, засумавала, пачала ўрастаць у зямлю, двор і агарод зарос быльнягом. Драўляныя сцены паеў шашаль, страха прагніла, пачала цячы, а пасля і зусім увалілася. Вокны павыбівалі нейкія злыдні, заміж іх зіяюць чорныя дзіркі. Не раз летнія дажджы залівалі хатнія пажыткі, якія засталіся ад гаспадароў, а вятры не раз развявалі бацькоўскую вопратку на цвіку пры дзвярах. У зімовы час мяцеліцы засыпалі хату снегам, ад гэтага станавілася яшчэ больш сумна. А пасля надыходзіла вясна, ажывала ўсё навокал, і жыццё ў вёсцы бурліла. Толькі адзінокай хаціне па-ранейшаму было сумна. З якой зайздрасцю зазірала яна ў вокны суседняй хаты, цешылася з дзіцячых галасоў, радавалася за іх, а па начах ціхенька, каб ніхто не чуў, плакала…

Праз месяц прыйшоу бульдозер - і хаты не стала…

Бацькоўскі парог… Як любы і дарагі ён кожнаму з нас. Тут кожная пядзя зямлі паліта потам нашых продкаў, кожны куточак хаты сагрэты бацькоўскай любоўю і пяшчотай. Як радасна вяртацца ў родныя мясціны на бацькоўскую зямлю. І як балюча, калі ўсё гэта нікому ўжо не патрэбна.

# З М Е С Т



## П А Э З І Я



## П Р О З А



**Родныя пагоркі**. Капыльскі літаратурны альманах №1. На беларускай мове. УА “Выдавецкі дом ТБМ”. 2021. 120 с. Наклад - 150 асобнікаў. Фармат - А-5. Гарнітура “Таймс”. Замова № 2016.



# Капыльскія пагоркі

Між Слуцкаю раўнінай
І Нёманскай далінай,
Пад радаснаю зоркай
Калісьці Бог раскінуў,
Калісьці Бог раскінуў
Капыльскія пагоркі.

Ад працы расцвіталі,
Нягоды праганялі
Праз пот салёна-горкі,
Жытамі прырасталі,
Свабодай прараcталі
Капыльскія пагоркі.

І з сілаю магутнай,
Да гэтага нячутнай,
Бы з жыламі ў дзве столкі
Тут ворагаў лупілі
І край свой баранілі
Капыльскія пагоркі.

Няхай жа сонца ўсходзіць,
Хай доля верхаводзіць,
Хай будзе ўсё да толку.
Няхай багацце родзяць,
Няхай душу лагодзяць
Капыльскія пагоркі.

*Станіслаў Суднік.*

